Антон Бялевіч

# Сонечны гадзіннік

ВЕРШЫ
ВЕРШАВАНЫЯ
АПАВЯДАННІ
ПАЭМА

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1978

## РАДЗІМА

Ад ганка, ад плота старога,
Дзе кожная жэрдка згніла,—
За вёску пабегла дарога,
Дарога мяне павяла
Праз вецер густы і духмяны...

У ім быў настой канапляны,
Пракосаў завялых душок...
Шаптаў я: — Бывайце, Хатляны,
Да стрэчы, зязюлін барок!

Іду, як гаворыцца, ў людзі,
Пакінуць хачу добры след.
За гэта ж мяне не асудзіць
Ні дзядзька чужы, ні сусед.

— Няхай паблукае па свеце,—
Прамовіць якісь дабрадзей...
Быліны і казкі мне вецер
Прыносіў ад мудрых людзей.

Легенды і песні не ў кайстру —
Складаў іх шаноўна ў душу.
З таго ўжо няблізкага часу
У сэрцы агеньчык нашу.

Пакуль ён у сэрцы іскрыцца,—
Не згасне напал ад тугі...
Прыйшоў я Крамлю пакланіцца
І вам, наш Ільіч дарагі.

Такі вы адзіны, адзіны,
Любімы на ўвесь белы свет.
У вашай душы ўся Радзіма,
Святло найвысокіх планет.

Ваш розум, як сонца, нам свеціць,
Праменную яснасць дае...
І неба, і сокал, і вецер,
І сонца, і зоркі — мае!

Няспынна, нястомна ісціму
Да яснага Берага я...
Направа, налева — радзіма,
Ад краю да краю — мая!

Радзімай маёй ганаруся,
Яна ў маім сэрцы жыве.
Шлю нізкі паклон з Беларусі
Расіі і роднай Маскве.

# МАЛЕНСТВА

Як па мосце трактар,
гром праехаў
Па калінах, вербах над ракой.
А я бег, лавіў лясное рэха,
Я хацеў схапіць яго рукой.
А яно кацілася арэхам
Праз арэшнік сцежкаю лясной.

Я гукнуў: — Пастой!..
Яно гукнула:
— Дагані, маленькі, дагані!
І напоўніла вясёлым гулам
Кожную бярэзіну ў гаі.

Да бяросты я прыкладваў вуха,
На ёй слёзкі светлае расы.
І тады душою я падслухаў
Галасы... Жывыя галасы
Падхапілі, лёганька панеслі,
Ціха зашумелі верасы,
Калі збягалі ў сэрца песняй
З-пад бяросты тонкай галасы.

## СОНЕЧНЫ ГАДЗІННІК

Яшчэ мяне дарога кліча,
Хоць я цяпер немалады.
А сонечны гадзіннік лічыць
Мае гады,
Як жалуды,
Якія восенню даспелі
На дубе ў кроне залатой.
Мне салаўі яшчэ не спелі
Апошняй песні над ракой
У ціхім шолаху ракіты,
Дзе пахне мёдам свежы стог.
Ужо нямала пражыта,
Нямала пройдзена дарог
З табою, матухна-Радзіма,
На сцежках нашыя сляды...
Адлічвай, сонечны гадзіннік,
Мае наступныя гады,
Надзеі, клопаты, трывогі,
Хаду няспынную падзей.
У свет, у новыя дарогі
Гадзіннік сонечны вядзе;
Вядзе ў зіму, вясну і лета,
У восеньскі даспелы сад...
Праменні — стрэлкі, а планета —
Гадзіннікавы цыферблат.

## СТОЛ

Ён стаяў на покуце, кляновы,
Са шчарбінкамі, старэнькі быў,
Але хоць шчарбаты, хоць не новы —
З намі ён дружыў
І нам служыў.

Ставіла на ім, бывала, маці
У мундзірах бульбы чыгунок,
Слалася на сцены, на палаці
Пара цёплая, нібы дымок;

Хрумсткія гуркі там пахлі кропам,
Ліецямі дубовымі — расол.
І нязменны быў у маці клопат,
Чым яшчэ аздобіць бедны стол;

Раніцой святочнаю аладкі
Нам, бывала, з печы дастае,
Не было вялікага дастатку,
Не было раскошы на стале.

Толькі на вялікдзень, на каляды
Не журбоціўся, крывы, стары;
Весяліўся, быў ён вельмі рады —
Хоць ты ў карагод яго бяры.

Калі ж хто памрэ,— дык, небарача,
Мне здавалася, і ён заплача,
У бядзе прыгорбіцца ён сам...
З дзён маленства стол кляновы бачу:
Ён мне першы вершык напісаў.

# АД КАСТРА ВЯЛА МЯНЕ ДАРОГА

Я даўно прапісаны да Мінска,
На праспекце Ленінскім жыву.
А бывае, думкай за вятрыскам
У маё маленства заплыву:

Лаўскі лес убачу,
Рэчку Шачу,
У якой купаўся ў санцапёк,
На начлезе бульбу ў прыску пёк;
Пра́жыў там струкі на добрым жары,
Бубінкамі пырскалі струкі;
Крумкаталі жабіны імшары,
Халадок плыў ноччу ад ракі;
Ахіналі хваляю густою
Багуны...
Маленства адплыло.
Хоць яно было не залатое,
Хоць яно нішчымнае было,
А яно відаць мне здалячыні
І яго вясновая зара.
Павяла дарога
з той лагчыны,
Ад таго начлежнага кастра
У шырокі свет...
Было нямала
У жыцці турботаў і падзей.
Сталасцю маё юнацтва стала,
А маленства кут памаладзеў.

Там цяпер на купінах не скача
Пастушок ля «чортавых акон»...

Па табе душа мая не плача,
Камарыны сум далёкіх дзён.

Толькі ўсё прыгадваецца тое,
Што ў маё маленства заплыло.
Хоць яно было не залатое,
А прывабнае яно было.

## КРЫЛЫ

Аж пятнаццаць крылаў у Радзімы:
Кожная рэспубліка — крыло.
Аж пятнаццаць справілі радзінаў
Пабрацімы разам за сталом
У сталіцы... з матухнай-Масквою
Падымалі тосты дружбакі:
Нас ніякі выбух не расколе —
Змацавалі дружбу на вякі.
Парадпілі сэрцы пабрацімы,
Заручылі з горадам сяло...
Аж пятнаццаць крылаў у Радзімы:
Кожная рэспубліка — крыло.

## ЦЫФЕРБЛАТ ЗЯМЛІ

Уздоўж дарогі вецер гоніць
Азяблай восені кусты;
Яны бягуць...
Шумяць і звоняць
Іх сухаватыя лісты.

А я праз шолах невясёлы
Іду дарогай палявой...
Сумуе стог на лузе голым,
Абняты восеньскай смугой.

На стог прысеў каршун зіркаты,
Стажар трымае ў кіпцюрах.
І нават небу сумнавата
Без жаўрука, без песняра.

Туман палотнамі развешан
На вербах, на галлі сасны.
Маркота... Толькі тым уцешан,
Што песня новае вясны
Закутак гэты атакуе,
Абудзіць пад бяростай сок;
На такавішчы затакуе
Глушэц — шыкоўны жанішок.

І коцікі вярбы ў зацішку
Такімі стануць, як чмялі;
І зварухне сухую шышку
Травінка першая;
з раллі

Радочкі выскачаць авёсу,
Пакажа вусікі ячмень;

І хмару чорную за косы
Ухопяць вецер і сухмень.

І хлыне лівень белы, сіні,
Напоіць смагу цёплых ніў...
Глядзіш: над рэчкай дакасілі,
А ты і час жніва прысніў.
Пакліча ён сталёвых коней
Жытнёвым шолахам густым...

Кусты асенні вецер гоніць,
Бягуць азяблыя кусты.

# ВЕЦЕР

У дуброве вецер свішча,
Выбягае ў поле.
А там свежае іржышча
Ветру ногі коле.

Ён жа босы, ён не ў ботах,
Да кален штаніны.
Скочыў вецер у балота,
У куст камарыны.
Там самота
І нудота рыжай імшарыны;

Там на купінах бярозкі
Сумныя, крывыя.
Вецер кінуўся да вёскі,
Каля весніц вые:

— Прапусціце ў сад пчаліны,
Адчыніце дзверы!
Натрасу вам садавіны,
Яблыкаў і бэраў.

Пакланіўся вецер нізка
Чалавеку ў ногі...
— Ну, заходзь, заходзь, вятрыска,
Адпачні з дарогі;

Адсапіся ды за працу,
Парабі на славу.
Падсушыць нам трэба, браце,
На гумне атаву;

Адгані вунь тую хмару
Ад гумна ў балота.
Дам штаны табе, таварыш,
А таксама боты.
Пройдзеш смела па іржышчы,
Ног тваіх не ўколе...

Каля хмары вецер свішча,
Гоніць хмару ў поле;
На балота цягне хмару
За чорныя косы...
З добрым ветрам кашу зварыш,
Друг надзейны і таварыш
Вецер шматгалосы.



Не кажы, што свет сышоўся клінам,
Што замкнуўся твой шырокі круг.
Я цябе ў самоце не пакіну,
Мой харошы друг,
сардэчны друг.

Мы з табою, братка, не атопкі,
У бары не стопчуць камары.
Мы абвіты дружбай,
нібы клёпкі
Абручамі моцнымі ў вядры.

Не ржавеюць клёпкі, вёдры з дубу,
Іржавець не час і нам з табой:
Не далі яшчэ мы крокваў зрубу,
Не накрылі сонцам і зарой.

Трэба, нібы душы, вокны насцеж
Расчыніць, зашкліўшы сінявой;
Трэба пасяліць у хаце шчасце
З песняю, з вясною маладой...

Не кажы, што свет сышоўся клінам,
Што замкнуўся твой шырокі круг.
Між табой і цёмнай дамавінай
Я гарой паўстану, верны друг.

## ДАЛЁКАЕ-БЛІЗКАЕ

Яшчэ зязюля не кувала
Ў бары. Кувацъ ёй не пара.
А ўжо вясна-красна гукала
На поле плуг і плугара.

Выходзіць ён...
Яго загону
Па мерцы світка-шарачок.
Стаіць плугар. Няма разгону.
І плуг — не плуг: стары кручок.

І конь — не конь: на бубен скура,
Пад ёй рабрыны палічы;
Хоць ты спраўляй па ім хаўтуры.
Хоць на вяроўках валачы...

Бяда, бяда! Няма разгону,
Сышоўся клінам белы свет.
А трактар бег ужо з раёну
У наш Хатлянскі сельсавет.

Пачуўшы гул, пабеглі к тракту
Суседніх вёсак плугары.
Стаяць, глядзяць яны на трактар.
Над ім сцяжок — святло зары;

Святло сялянскай новай долі,
Жыцця калгаснага святло.
Яно плыло па нашым полі,
У нашы душы заплыло.

Сцяжок шуміць пад ветрам веснім,
Трапечацца, як жаўручок.
І жаўруковай шчырай песняй
Ў грудзях трапечацца сцяжок.

Па баразне шырокай свежай
Бягу за трактарам услед.
Загоны рэжа,
Кроіць межы
Плугамі трактар.
Ён — паўпрэд
Магутнай гвардыі рабочай,
Ён ад завода пасланец.
Працуе днём, працуе ўночы,
Штурмуе поле, як баец.

Ён і адзін у полі воін,
Ваюе з беднасцю людской.
Багацце нашае падвоім
Мы з дапамогай гарадской.

Прыслаў нам горад трактарыста,
Свайго тады ў нас не было...
А летам з нівы каласістай
Дабро ў засекі паплыло.

Дабра такога аж ад веку
Не сніў, не бачыў наш народ.
Мы вельмі ўдзячны чалавеку,
Якога нам прыслаў завод.

Ён адкаваў нам Серп і Молат,
Маторнай сілай дапамог
Скасіць,
Зваліць

Спрадвечны голад,
Скруціць бяду ў барані рог.

Цяпер машын у нас нямала,
Сядай за руль,
Вядзі, ары!
І хоць зязюля не кувала,
А ўжо маторы-песняры
У поле хлынулі па тракту,
Ён грае зорку, як гарніст...
З даўніны бачу першы трактар,
У сэрцы першы трактарыст.

## РАБАЦЯГА

Сонца заходзіць...
А спіць яно дзе?
Дзе спачывае да ранку?
Магчыма, дарожкай лясною ідзе
На светлую тую палянку,
Дзе сосны наўкола — сасна да сасны;
Рабіна да дуба хінецца...
Уночы прысніўшы харошыя сны,
На досвітку сонца прачнецца;

Да чыстай крыніцы падступіць бачком,
Крыніцай умыецца чыста;
Бяростаю белай, нібы ручніком,
Вытра свой твар залацісты.

І пойдзе дарожкай з палянкі лясной,
Не стопча чырвоных суніцаў;
Дакосіць з касцамі лугі за ракой,
Падсушыць сырую травіцу;

Жняцам дапаможа яно на жніве;
Даспеліць ільноў валаконцы...
Работнікам дбайным і шчырым слыве
Высокае добрае сонца.

## СМЕРЦЬ ПАРТЫЗАНКІ

Нельга мне з горам змірыцца,
Сэрца ад болю рыдае...
Быццам у клетцы сініца,
Ў труне яна, маладая.

Белыя, сінія кветкі,
Сумны вяночак з рамонку...
Што ж ты?.. Хадзем у разведку!
Чуеш? Не чуе Алёнка.

Яму рыдлёўка капае,
Цёмная, жоўтая яма.
Слёзы на вейках Міная,
Гэтак, як мы, ён таксама
Сэрцам, душою гаруе,
Кажа камбрыг пасівелы:
— Ворагу мы не даруем!..
Змоўкнуў...
Нібы анямелы,
Сумны, стаіць, небарача,
Кажа: — Сыпніце ёй кветак...
Можа, дзяцей родных бачыць?
Знішчылі ворагі дзетак.

Плача рабіна густая,
Смолкаю плача сасёнка...
Можа, Алёнка, ты ўстанеш?
Чуеш? Не чуе Алёнка.

Моцна, навекі заснула
У багуновым зацішку...

Многа гадоў прамінула —
Я пасівелым стаў крышку.

Толькі яе, маладую,
Бачу, як майскую кветку;
Быццам гаворыць:
— Пайду я
Сёння на змроку ў разведку.

Быццам Алёнка жывая,
Воблік — прываблівы, мілы...
Ціхая сцежка лясная
Зноў прывяла да магілы.

Бегаюць шустра мурашкі,
Сумна куваюць зязюлі.
Нейкаю хваляю цяжкай
Смутак мой горкі атулен.

Плача рабіна густая,
Смолкаю плача сасёнка...
Можа, Алёнка, ты ўстанеш?
Чуеш? Не чуе Алёнка.

## МУЗЫКА

Яна жыла ў ствале яловым,
Была яна нямою век.
Ёй перадаў жывыя словы,
Душу жывую чалавек.

Ён далікатненька пастукаў
Па елцы цёмнай абушком,
А з-пад кары пабеглі гукі;
Нібыта струны пад смычком,
Запелі тоненька галіны,
Кранулі сэрца галасы.
І майстра звонкую яліну
Зваліў на мох,
на верасы.

Часаў сякерай ды рубанкам
Ды гэблікам ён габляваў;
Пацеў да вечара ад ранку,
Душы пяшчоту аддаваў
Таненькім дошкам,
каб запелі,
Каб сталі музыкай жывой.
Яны пад сонейкам пацелі
І халадзелі пад страхой.

Лягенькімі,
нібы пярынкі,
Чысцюткімі,
нібы іскрынкі,
Дашчэчкі...
Добра майстраваў!

Душы напеўнае жарынкі
У скрыпку майстра перадаў.

Зайграе — скачуць лугавіны
І салаўіны беразняк...
Казалі, нават Паганіні
На ёй іграў...
Магчыма, так?

# ЛЕТНЯЯ СІМФОНІЯ

Вясёлай, шумнаю хусцінай
Накрыла лета беразняк.
Ён свіснуў песняй салаўінай,
Заракатаў ён песняй так,
Што дуб стары кудлатым чубам
Падмёў хмурынкі з сінявы;
Шумеў лістамі: — Ах, як люба,
Калі бушуюць паплавы.
Я пражыву яшчэ нямала:
Сем соцень лет,
Сем соцень зім...
Каліна з дубам заскакала,
Бярозанька запела з ім:
— А мы ж у поўнай нашай сіле,
У маладой сваёй красе!..
На луг зялёны, жоўты, сіні
Пабеглі песні па расе;
Расы і сонца напіліся —
Іх пазванчэлі галасы.
І нават песняй наліліся
Трава і жыта каласы,
У садзе яблыкі і грушы,
І звон зязюльчыных бароў,
І нашы сэрцы, нашы душы,
І гул маторных песняроў.
Яшчэ ніколі і не чулі
Такой сімфоніі вякі.
І быў я радасна расчулен,
Мае сябры і землякі.
Старыя нават маладзелі:
У кожнага душа пяе.

Нібыта радугу надзелі
Яны на лысіны свае.
Сімфонію іграла лета,
Скакалі поле, сенажаць...
Гатоў абняцца з белым светам,
Яму гатовы перадаць
Душы іскрыначку жывую,
Душы прачуленай агонь,
Яму і сэрца падарую,
Усю сімфонію яго.
Хай свет у горы не заплача,
Хай не спаткаецца з нудой...
З калінай дуб вясёлы скача,
Пяе з бярозай маладой.

# СПЕЛЫ ВЕРАСЕНЬ

На ігліцах елкі павуцінне —
Сетачка танюсенькая, белая;
На пажоўклай, стомленай рабіне
Ягады чырвоныя, даспелыя.

Ціха ахінаюць неба просінь
Белыя хмурынкі, нібы лебедзі;
Валачэ нажыткі ў сёлы восень,
Нібы рыбалоў уловы ў невадзе.

За кляновы стол на лаву села
Восень шчодрай, важнай гаспадыняю;
Кліча хлебаробаў на вяселле,
Іх частуе хлебам і вяндлінаю,
Медавухай, півам і гарэлкай.
А чаму ж? Нягрэшна выпіць чарачку.
Закусі хапае. У талерках
Мёд і свежы сыр, а ў місках скварачкі.

А пасля нас восень запрасіла
На радзіны. Мы прыйшлі дружынаю...
Дай дарогу! Крочыць наша сіла,
Згуртавана воляю адзінаю.

## Я ГУКАЮ, ВЫКЛІКАЮ...

На сябе маланкі выклікаю,
Выклікаю буры, перуны,
Як агонь апошняе вайны.
Маладых арэхаў паміж гаю
Хай не паляць, не сякуць яны;

Хай на хмары чорнай у балота,
За далёкі сіні небасхіл,
Завязуць самоту і журботу
Курганоў гарбатых і магіл.

Можа, усміхнуцца ім пралескі,
Чабарок зялёненькі ў траве;
Песня жураўліных пералескаў
Голасам шчымлівым даплыве;

З цёплага духмяністага бору
Пададуць зязюлі галасы;
Гулкая сімфонія матораў
Даплыве з пшанічнай паласы.

І тады, магчыма, на палянку
Выйдуць цені хлопцаў з туманоў?..
Абудзіце, громы і маланкі,
Сон магільны брацкіх курганоў!

## КАРАСІ

Там, дзе поплаў чорны галасіў,
Дзе варонка заплыла вадою,—
Прыжыліся добра карасі,
Плаваюць чародкаю ляною.

Тлустыя, як царскія чыны!
Карасям — ні працы, ні турботы.
Торкаюцца рыльцамі яны
У траву ды ў броснюю між чароту.

У пажоўклай, ціхенькай вадзе
Нагулялі, млявенькія, тлушчу.
Як гаворыцца, жыццё ідзе,
Бомбамі яго не launched...

Чарпані кашом,
бяры рукой
Гладкіх таўстуноў...
Падсмажвай, жонка!..
Ведаем: народжана вайной
Гэта карасіная варонка.

Вось чаму так цяжка да яе
Падыходзяць нашы рыбаловы:
Успамінам горкім паўстае
Час далёкі.
Страшны і суровы.

## РОДНЫ СВЕТ

Людзі кажуць:
                    — Пад ляжачы камень
Нават і вада не пабяжыць...
Давялося ўласнымі рукамі,
Напінаўшы жылы, як гужы,
Уздымаць пласты на чорных лядах,
На пустэчы, гліне і жарстве,
Каб яны цвілі вясновым садам,
Каласамі, кветкамі ў траве.

Паглядзіце: мы звярнулі горы,
Калі ўсёю сілай налеглі.
Памаглі нам дужыя маторы,
Пяцігодкі нашы памаглі.

Захачу — выходжу ў сад вясёлы...
Лапушысты сад мой, беластволы,
Яблыкі як грудкі снегіроў.
І, здаецца, мне гавораць пчолы:
— Еш мядок наш, братка...
                                        Будзь здароў!

Захачу — іду пацiху ў жыта,
А яно шуміць, яно заве.
Цёплы, дробны дождж, як праз сіта.
Праз хмурынку сінюю плыве.

Захачу — іду на хвойны ўзгорак,
Пахне тут смалою і карой...
Мне бліжэй да сонца і да зорак.
Іх магу пакратаць я рукой.

З вышыні маёй відаць далёка,
Бачу стужкі рэчак і дарог...
Марс глядзіць сваім чырвоным вокам.
Ён не бог вайны.
Ён міру бог.

# КОЛАС

Я песні даў пяшчотны голас,
Напоўніў шчырасцю яе.
У ёй прарос жытнёвы колас,
Смуткуе колас і пяе.

Пра што пяе?..
Паслухай сэрцам,
Яму згадаць усё дазволь.
У песні — нашае бяссмерце,
Вялікі сум, пякучы боль
Тых дзён, калі на поўны голас
Закутак гэты галасіў;
Каб вырас новы жытні колас,—
Салдат у гільзы ўрос па пояс,
Зямлю крывёю арасіў,
Уласнай смерцю
смерць скасіў.

У полі жыта зноў красуе,
Не знаўшы гора і бяды,
Ды каласамі галасуе
За нашы светлыя гады;

За нашы мары і надзеі,
За поўнае здзяйсненне іх...
Здаецца, сам я маладзею
Паміж калоссяў маладых.

# СІЛА

Дубку маламу з жолуда прабіцца
Было патрэбна тут,
узняць чубок.
І мне тут
давялося нарадзіцца,
Пусціць карэнні,
нібы той дубок.
Ён рос і рос.
Да сонца чубам вылез
З глухмені —
цёмных елак і ляшчын.
І я ў глухім,
лясным
закутку вырас,
У нас і край адзін,
і лёс адзін.
Яго зямля карміла
і паіла,
Таксама гадавала і мяне;
Яго вайна жалезам
не разбіла,
Яна мяне таксама малаціла,
Таксама ацалеў я на вайне,
Бо нам зямля дала
такую сілу —
Пярунная навала не сагне!
Мы нашу сілу,
мужнасць
і натхненне
Перададзім і дочкам,
і сынам.

Яны яшчэ мацней,
глыбей
карэнні
Тут пусцяць у зямлю
на радасць нам.
І нашай змене
сцяг высокі несці
У шчасце поўнае,
у ясны свет.
А бурам
І віхурам
не замесці
Ні наш,
ні новых пакаленняў след.

## НА СХОДЗЕ БУСЛІНЫМ

Глядзі! З-пад елкі, з-пад асіны
Бягуць грыбы ў лазовы кошык.
Зляцеліся на сход бусліны
Буслы на шэрую пакошу.

— Пара! —
Важак стары клякоча,—
Пара праверыць нашы крылы...
А малады к яму падскочыў:
— Маўчы! Яшчэ не затрубіла
Ў трубу сцюдзёным ветрам восень,
Гарыць чабор блакітным цветам;
Яшчэ атаву людзі косяць,
Яшчэ тут бабінае лета;

Туман, як белая авечка,
Ляжыць на поплаве, а рэчка
Бяжыць, агністы ліст калыша...

На сходзе шум, на сходзе спрэчка,
Стары важак з чародкі выйшаў;

На купіне, як на трыбуне,
Ён стаў, цыбаты, і клякоча:
— Калі наеўся заяц руні,
Калі лаза азябла ўночы,
А ранкам шэрань на бярозе,
А пад нагою хрусткі лісцік,—
Укусіць першы нас марозік,
Другі мароз нас будзе грызці.
Пара!.. Цяпер вы зразумелі?

Маім паверылі прыкметам?
— Пара!
— Пара!
Буслы ўзляцелі;
На крылах бабінае лета
Нясуць над поплавам, над борам,
Над зыркім полымем каліны;
Дарогай млечнаю за мора
Плыве, плыве шнурок бусліны.

І трошкі сэрца мне сціскае
Шчымлівы голас развітальны.
І трохі ўцешан — пагукае
Вясна прылёт з краіны дальняй;

Пакліча клёкатам буслiным
Вясна пралеску ў засень гаю...
Буслы! Чакаюць вас даліны.
І я таксама вас чакаю.

## ЧОРНЫ КОНЬ

Я прысніў каня,
а ён, як хмара,
Чорны ды з маланкамі ў вачах.
Кажа мне: — Ляцім, таварыш!..
Капытамі конь дарогу ўдарыў —
Перуны ў ягоных капытах.

Страсянуў ён грывай —
іскраў лівень;
Ноздры разадзьмуў —
туманы з іх.
І панёс, панёс мяне над нівай,
Над чубамі вербаў лугавых.

У прагалках неба, як у бубен,
Стукнуў конь у поўню капытом.
Цішыня. Не клічуць мяне трубы
Спавядацца богу...
Пад замком,
Пад хмарынай богава кантора,
І даўно на пенсіі ён сам...
Як арэхаў спелых, з неба зорак
Адшчыкнуў: сябрам іх перадам.

І не трэба мне інакшай долі,
Буду ёю жыць да схілу дзён...

Чорны конь, як хмара, плыў над полем,
Грывай чорнаю акрыліў сон.

# ЖЫВОМУ — ЖЫЦЬ!

Стаіць самотная жанчына,
А лісце жоўклае: шу-шу...
Чырвоным полымем рабіна
Не грэе сумную душу...
— Адпусціш, можа, дамавіна
Майго любімага?..
Прашу.

А хай бы ўбачыў неба просінь
Ды жураўліны Млечны Шлях;
А хай бы мілы мой увосень
Садамі спелымі прапах...

Шаптала, хоць і разумела:
Не выйдзе ён на белы свет.
Нібы магіла, анямела,
Пайшла паціхеньку, а ўслед
З ляшчын каціліся арэхі
І па лістах, і па траве...
Была ў жанчыны толькі ўцеха:
Жывому — жыць! Яно жыве!

Яно рунее ў жытнім полі,
Яму — расці,
Яму — цвісці!..
А ёй з удовінаю доляй
Далей ісці,
Далей ісці!

І гэтак шлях жанчына пройдзе,
Як шмат няўцешаных удоў.

Яшчэ ж не вечар, толькі поўдзень
Яе жыцця, яе гадоў.

Яшчэ ж яна не пасівела,
На твары сумным, пахуднелым
Няшмат маршчынак у яе...
Чаму ж мне ў сэрцы зашчымела,
Чаму ж паветра нестае?

# ПАЗНАЮ — АДВЕЮ

Няпраўду ад праўды адвею,
Нібыта асцё ад зярнят,
Я руку падам дабрадзею,
Дарадчыку шчыраму рад.

Хай будзе калючы, як вожык,
Хай словам уколе не раз:
Ён праўдай суровай паможа
У горкі, у радасны час.
А той, што кароўкаю божай
У сэрца паўзе,— дык якраз
Яму я не веру, не веру,
Лісліўцаь яго не прашу.
Яму не расчыняцца дзверы
Ніколі ні ў дом, ні ў душу.

Навучан жыццём!
                    Разумею
Лісліўы і шчыры пагляд...
Няпраўду ад праўды адвею,
Нібыта асцё ад зярнят.

## ЗАКЛІК СЭРЦА

Калі я гаротніка ўбачу,
Калі ён марнее ў журбе,—
Дык сэрца маё горка плача,
Душу маю смутак шкрабе.

Пакутуе друг — я пачую,—
Дык сам у пакуце стаю,
Забраць яго жальбу хачу я,
Аддаць яму ўцеху маю;

А хай жа лягчэй яму будзе,
Хай боль не сціскае грудзей...
Людзі! Шаноўныя людзі,
Агортвайце шчасцем людзей;

Дарыце ім радасць і ласку,
Узлёт і запал малады,—
Дык нават зімой лютай
фарбы
Жыццё нам падарыць тады.

## АСЕННІ РОЗДУМ

Ляжыць пажоўкласць на траве,
Гарыць асіна, нібы свечка;
Туман над рэчкаю плыве,
Нібыта падпалілі рэчку;

Нібыта нейкі чарадзей
Пакурвае хрыпулю-люльку.
У дымнай, белай барадзе
Шукае рэчанька прытулку.

Асеннім вее халадком
Ад пацямнелых зябкіх плёсаў;
Зялёны конік малатком
Не клепле ў лузе звонкіх косаў.

Пажоўклы сум,
Няўцешны шум
Бяроз і горкае асіны...
Я перадумаў многа дум
Самотнай восенькай часінай.

Пярэсты дзяцел на сасне
Грукоча ў ствол, нібыта ў бубен.
Гады выстуквае ён мне:
— Хаця б не даў ты, братка, дуба.

Магчыма, так, як жалуды
З галінаў коцяцца на верас,
Мае пакоцяцца гады
На той апошні сумны бераг?

Але я веру
І не веру
Табе, пярэсты, на сасне,
Што ў ствол грукочаш,
                    як у бубен.
Яшчэ ісці дарогай мне,
Яшчэ пажыць на свеце люба.

На дубе новых жалудоў
Убачыць восенню хачу я.
Дык не выстуквай мне гадоў,
Самотны дзяцел. Чуеш?..
                    Чуе!
Не стукае ў пажоўклы ствол.
У лесе ціхая часіна.
Накрыла пень — сасновы стол —
Чырвоным полымем асіна.

Прысядзь на мох ды на стале
Пішы ты зоркаю высокай.
Чаго ж, чаго мне нестае?
Вясны юнацкае, далёкай.

А як жа выклікаць вясну?
Вясну ў дуброве пагукаю...
О, не! Душою не засну,
Бо ў ёй нясу вясну-красну,
Пяшчотна сонцам ахінаю.

## ДРУЖБА

Ключы залатыя дарыла
Высокае сонца вясне.
— Зямлю адмыкай,— гаварыла,—
Ачысці плугі ў баразне.

— Ачышчу! —
вясна адказала.—
Як промні, заззяюць плугі!..
Сырую зямлю адмыкала,
Гукала траву на лугі,
А пчол на вясёлыя краскі,
На пошум калін — салаўя...

З вясною і сонейкам ясным
Знітаваны дружбаю я.

І нельга разбіць перунамі
Сардэчнае дружбы маёй,
Бо гэтак, як дуб каранямі
Зрадніўся з любімай зямлёй,
Знітаваны, родныя, з вамі
Маёю любоўю святой.

## БЫЛІНА ПРА ВОЛАТА

З гаю выскачыў тады,
У вясну далёкую,
Калі быў ён малады,
Калі ўслед галёкалі
Дубы пасівелыя:
— Ты куды, сынок?
                    — Туды,
Да бярозы белае!

І пабег, пабег, пабег
На гульню з бярозаю...
Наляцеў зімою снег
З лютымі марозамі.

Хоць мароз траскучы пёк,
А не ўцёк
У гай дубок,
Сваёй сіле верыў ён;
Пад страхой сівых аблок,
Ля рачнога берага,
Учапіўся за зямлю
Каранямі-лапамі...
— Я бярозаньку люблю,
За сябе пасватаю!..

Любаваўся юны дуб
Маладой каханачкай.
Ён таксама быў ёй люб:
Стройны стан,
                    вясёлы чуб
Цешылі бялякачку.

— А чаму ж? Ён хоць куды! —
Сарамліва змоўкнула...
Беглі хуценька гады,
Дуб асейваў жалуды
На траву пажоўклую.

Заспяваў дубовы гай
Каля рэчкі светлае.
Слухае птушыны грай
І бяроза ветлая.

І сама пяе, пяе,
Паміж гаю люба ёй,
Атуляюць жа яе
Ўсе сыночкі дубавы.

І ён восеньскай парой
Кронаю, як золата,
Дасць суцішак пад слатой,
Цёплы, добры супакой
Пад крылом у волата.

Не баіцца буры ён,
Ні зімы з марозамі;
Як з нявестай, заручон
З белаю бярозаю.

## ПАСЯЛІЛА Ў СЭРЦЫ САЛАЎЯ...

Шолахі бярозы кучаравай
І лясное рэха я нясу.
Любата! Налева і направа
Бачу, Беларусь, тваю красу.

Ты дала вачам азёраў просінь,
Чысціню крынічную — душы...
Ды гляджу:
                    ідзе з кіёчкам восень
Да мяне з яловае глушы;

У мяне пытае, ці гатовы
Я ісці за ёю па лістах...
Узышоў мой месяц вераснёвы,
Жалуды даспелі на дубах.

Толькі ў кожным жолудзе даспелым
Дрэмле, прытаіўшыся, дубок...
Не крані красы памаладзелай,
Восені арэхавы кіёк!

## НА ВЯСЕЛЛІ

— Калі, сват, гарэлкі не дасі,—
Маладзіцы пелі за сталом,—
Караваю трасцу ты з'ясі,
Мы цябе прагонім памялом!..

Маці зацягнула, завяла,
Трошкі спахмурнелая ў журбе:
— Ты ж, дачушка, гэтакай была,
Як расінка ранкам на вярбе.
Уцякаеш з роднага сяла.
Можа, я прагневала цябе?

— Не уцякаю, мама, не бягу,
Угнявіць, пакрыўдзіць не хачу.
Без майго саколіка не магу,
Да яго саколачкай лячу.

— Ты ж паплач, крывіначка мая,
Хоць адну слязінку падары.
— Не магу...
Пачула добра я:
Коні заіржалі на двары
Ды званкамі клічуць на вазы,
Як званок, душа мая пяе...
— Поўны воз, дачушка, павязі
Ласкі мацярынскае мае.

— Павязу, шаноўна павязу
Дабраты твае паўнюткі воз.
Толькі развітальную слязу
Пракаўтну... Не трэба, мама, слёз...

Паплыло вяселле, паплыло
Песнямі, званкамі за бары;
Тапаліным пухам замяло
Шчырую матулю на двары.

4 Зак. 719

# ЯРАСЛАЎНА З ДУБРОЎКІ

— Дзе твой Яраславіч, Яраслаўна?
Не маўчы, самотная. Скажы.
— Да мяне каня свайго паслаў ён,
Па дарозе конь сюды бяжыць.

Чую я: грыміць ён капытамі,
Грывай ускудлачанай трасе.
Недзе Яраславіч за лясамі,
Ад яго конь вестачку нясе.

— А чаму ж не чую я нічога?
Можа, нахлусіла трохі ты?..
Не гудзе знямелая дарога,
А на ёй не звоняць капыты.

Адказала гнеўна Яраслаўна:
— Глухаватая душа твая!..
Яраславіч мой, саколе слаўны,
У тваім сядле прыеду я.

— У якім сядле? Сядла не бачу.
І каня не бачу. Дзе ж той конь?..
Прыляцеў узмылены, гарачы,
Ноздры разадзьмуў, а з іх — агонь.

— Ну, вязі, нясі мяне, таварыш!
Яраслаўна села на каня.
І паплыў, паплыў ён чорнай хмарай,
Вецер не дагнаў, хоць даганяў.

Конь спыніўся пад купчастым дубам,
Дзе смугой спавіты паплавы.
Яраслаўна плача:
— Родны, любы,
Чубам прытуліся да травы.

Падкасіла куля партызана,
На траве ляжыць. Трава ў крыві.
Яраслаўна дыхае на рану:
— Родны мой, харошы, ажыві...

З вейкаў на яго слязу скаціла,
Іскаркі душы перадала,
А яны былі такое сілы,
Што ад іх пакута адступіла,
Воіна магіла не ўзяла.

Іх любоў такое загартоўкі —
Не гарыць, не плавіцца ў агні...
Яраслаўна ехала ў Дуброўку
Разам з Яраславам на кані.

## У КАЛГАСНАЙ КАНТОРЫ

— Ну, чаго ты ходзіш, дзед?
Утаміў сустрэчамі.
Ты ж абуты, ты ж адзет,
Хлебам забяспечаны.
Ты ж на пенсіі цяпер.
Можа, мала пенсіі?..
Быў бы ты хоць камбайнер,
Меў бы ты прафесію,
Быў бы іншы сэнс тады,
Мы б цябе прыладзілі.
Без прафесіі — куды?
Ні сюды і ні туды.
Пагуляй у садзіку...

— Каб цябе стаптаў камар! —
Дзед узняўся бураю.—
Я — ганчар! А хто ганчар?
Важная фігура я!
Чуеш? Сам ты пагуляй!
Без турботаў згіну я.
Мне ганчарню падавай,
Забяспечвай глінаю!

Старшыня сказаў:
— Райснаб
Забяспечыў міскамі.
А твой пройдзены этап —
Спецыяльнасць нізкая.

Наляцеў на старшыню:
— Ах ты куст арэхавы!

Бачыш тую вышыню,
Каміны над стрэхамі?
Іх паставіў там райснаб,
Лёгкіх, ёмкіх, гладзенькіх?..
Сам ты — пройдзены этап,
Сам гуляй у садзіку!
Чуеш?
— Чую. Не аглух.
Аднаўляй прафесію...

Круціцца ў ганчарні круг,
У ганчарні весела
Звоняць кубкі і збаны,
Міскі паліваныя.
Кажуць, ім няма цаны:
Цудадзейныя яны,
Сонцам маляваныя.

Стаў гаршчок у зыркі жар,
Стаў гаршчок у полымя —
Ён не трэсне! Даў ганчар
Моцную, не кволую,
Сілу ўласнае душы
Гарачаму месіву...
Старшыня! Зноў прапішы
Даўнюю прафесію.

# ЛЮБОЎ І НЯНАВІСЦЬ

Нібыта павук павуцінне,
Цянёты пачвара снуе,
На шыю ён вам іх накіне,
Зацісне цянёты свае.

Такіх павукоў сёння мала,
Але яшчэ ў нас яны ёсць.
Хачу, каб зусім іх не стала,
Каб нас не кусала іх злосць.

А я па натуры рахманы,
Але і не добранькі я:
Таго, хто з душою паганай,—
Апаліць нянавісць мая;

Таго, хто сплятае цянёты,
Хто сэрцы хлуснёю шкрабе,—
Яго перуновай грымотай
Нянавісць мая разаб'е.

А я па натуры нязлосны,
Жыву і дружу з дабратой.
Аддаў бы я краскі і вёсны
Таму, хто з харошай душой.

Нянавісць у бой пасылаю,
Хай скосіць пачвар у баю:
Любоўю людзей атуляю,
Святую любоў аддаю.

## РАЗВІТАННЕ

Ціха явар з калінай
Шапталі над рэчкай,
А хлапчына з дзяўчынай
Абдымаўся сардэчна.

Вечароваю зоркай
Заручалі каханне.
І салодкім, і горкім
Іх было развітанне.

— Ты ж вяртайся,— прасіла,—
Мой харошы, мой любы...
Да крыві закусіла
Перасохлыя губы.

Гаварыў ён дзяўчыне:
— Не гаруй вельмі ў скрусе.
Бой закончу ў Берліне,
Зноў дадому вярнуся.

З батарэйнага грому,
З перуновай бамбёжкі
Да бацькоўскага дому
Не знайшоў ён дарожкі.

Куля хлопца зваліла
У траву русым чубам...
Да крыві закусіла
У горы дзеўчына губы.

Ціха явар з калінай
Шапаталі над рэчкай:
— Хто ж агорне дзяўчыну
Сваёй ласкай сардэчнай?



## ШЧУПАК ХВАСТОМ ПА ЛЁДЗЕ ТРЭСНУЎ

Шчупак хвастом па лёдзе трэснуў —
Зламаўся лёд!..
Бушуе Нёман,
Нясе з лугоў і пералескаў
Грачыны грай, зялёны гоман
У падарунак плытагонам.

Шануе Нёман працавітых,
За працу плаціць шчодрай платай;
Напоўніў боты, шапкі, світы
Настоем тым, які разліты
На беразе рачною мятай;
Духмянай юшкі акунёвай,
Мяньковай...
Юшка — будзь здароў!..
А дзесьці стануць пабудовай
Плыты з наднёманскіх бароў.

Магчыма, хлыне ў клубе песня,
Пачуе дом вясельны гоман?..
Шчупак хвастом па лёдзе трэснуў —
Зламаўся лёд!..
Бушуе Нёман.

# ГОРА Ў САЛАЎЯ

Каля рэчкі з арабіны
Яго хатку вецер скінуў,
Хатку гушкае вада.
Ой, бяда, бяда...

Свет шырокі, а ў ім цесна
Салаўінай шчырай песні,
Горла сціснула нуда.
Ой, бяда, бяда...

Хто ж паможа сіраціне
Хатку ладзіць на галіне?..
Салаўіха, пamажы.
Памагае!..
Не загіне,
Песня будзе жыць!

І ў мяне на сэрцы ўцеха,
Весела свішчу, як шпак;
Адклікаецца мне рэхам
Салаўіны беразняк.

## ЧАЛАВЕК

*Памяці Кузьмы Чорнага*

Прайшлі мы з ім дарог нямала
І да вайны, і на вайне,
А сёння памяць прыгадала,
Як гаварыў, бывала, мне:

— Прыкуй мяне ты ланцугамі
У палацы: згасну ад тугі.
Сваімі ўласнымі рукамі
Парву я тыя ланцугі,
Збягу з раскошнага палаца
Да баразён, лясоў і рэк,
Я — чалавек! Мне трэба праца,
Без працы я —
не чалавек.

Ары, касі, пілуй, нябожа,
Шклюдуй,
Габлюй,
Пішы як след.
Работа добрая ўпрыгожыць
Душу. Яна — шырокі свет,
Калі ў дрымоце не завяла,
Калі ў ёй промень не пагас,
Калі ў сябе яна ўвабрала
Далёкі час ды блізкі час,
Ды радасці і смуткаванні
Далёкіх дзён і нашых дзён,
Змярканні,
Свежыя світанні,
Красу зямлі, жытнёвы звон...

З таго апошняга спаткання
У думках ён, у сэрцы ён,
Як песня, што шугае ў неба
Ад родных ніў, ад светлых рэк...
Я — чалавек! Мне праца трэба,
Без працы я — не чалавек.

Ніколі з памяці не зможа
Ягоны выйсці запавет:
— Работа добрая ўпрыгожыць
Душу. Яна — шырокі свет.

# НАРОДЗІНЫ

Яшчэ мароз гуллівай пстрычкай
Па хвоях шчоўкае ў бары;
Пад стрэхі туляцца сінічкі,
У стог саломы снегіры
Хаваюцца ад халадзіны,
У стозе грэюцца яны.
А дзяцел грукае ў яліны,
Яліны — гулкія званы —
Вясну завуць працяглым звонам,
А ён, як мудры чараўнік,
Картавы голас даў варонам,
Гукаюць месяц сакавік.
Вароны з кожнага падворку,
Са сметнікаў... А снегіры
Чырванагрудыя, як зоркі,
Вясновым шышкам у бары
Іскрысты колер падарылі,
Удзячны шышкі снегірам...
Баразны люлькі закурылі,
Дымком віецца пара там;

Там праснаваты, кіславаты,
Густы, настоены духмян.
Нібы з яечкаў кураняты,
З раллі праклюнуцца зярняты...
Бушуй, зялёны акіян!

Сажне, змалоціць лета ніву,
На стол буханкі пакладзе...
Так нараджаецца не дзіва,
Не цуд, а шчасце для людзей.

# ПАБРАЦІМЫ

Пушча яловая гора нам гушкала.
З цемры спрадвечнае лёгкаю птушкаю
Слова ўзляцела вялікага Пушкіна.

Сілаю розуму мудрага Леніна
Змрокі развеяны!..
                    Зелена, зелена
Доля рунее яснымі ўсходамі.
І каласіцца паміж народамі.

У хоры вялікім, у радасным голасе —
Чуюцца песні Купалы і Коласа.

Дружбу звязалі дарогаю доўгаю.
Мы апаясаны Нёманам, Волгаю,
Церакам пенным, Даўгаваю сіняю,
Хваляй Дняпроваю...
                    З роднай Расіяю
Сёстры-рэспублікі нашыя звязаны
Стэпамі, горамі,
Кедрамі, вязамі,
Сэрцамі, душамі,
Цвёрдаю вераю.

Мост уздымаецца дружбы сардэчнае.
Сэрцам з Расіяй, сястрою спрадвечнаю,

У радасны час і хвілінаю горкаю
Дружба прашытая сонцам і зоркамі;

Сэрцамі нашымі дружба прашытая,
Шчырасцю, сілай вялікай налітая.

Сунецца гора — яго перамелем мы.
Крочым да сонца дарогаю Леніна.

## ЗЯМЛЯ

Мой прашчур вайну вёў з карчамі,
Грыз хвоі сякерай, пілой.
А хвоі стагналі, крычалі,
Слязіліся горкай смалой.

І сам быў, напэўна, не рады
Глядзець на заплаканы пень...
Пасеялі проса на лядах,
Пасеялі грэчку, ячмень;

Увосень пасеялі жыта,
Выжару ўзаралі валы.
Кавалак зямелькі абжыты,
Ды вельмі кавалак малы.

Счарнеў хлебароб, нібы хмара,
Ён думаў у цяжкай журбе:
«Ад панскіх бязмежных абшараў
Адкроіць бы скібу сабе».

Абшары ж яму не чужыя,
У іх яго слёзы і пот.
Ён там напінаў свае жылы,—
А пану даюць умалот
Валокі зямлі самай тлустай,
Абшары найлепшай зямлі.
Як хлеба духмянага луста,
Там кожная скіба раллі.

Багацце зямля нараджае,
Там жыта стаіць, як сцяна,

Ды толькі зямля ўся чужая,
Хоць родная сэрцу яна.

Сказаў хлебароб: — Я сякерай
Адкрою зямлі ў цябе, гад!..
Яму толькі сажань адмераў
Зямлі на магілу магнат.

Не ўстане на золку араты,
Ягоны загончык пажоўк...
Зямля нарадзіла багата
Магіл і над імі крыжоў.

Ішоў брат на брата з даўбежкай,
Сусед на суседа — з касой;
Крывёй аршалі паўмежкі,
Зямлю здабывалі крывёй.

Ды што ні рабі, не хапала
Зямелькі ў маіх дубраўчан...
Семнаццаты год. Бушавала
Віхура. Грымеў ураган.
І пана ў маёнтку не стала.
Уцёк у Варшаву наш пан.

Не стужкай жалезнай —
вяроўкай
Зямлю абмяралі вясной.
Маю надзялялі Дуброўку
Магнацкаю тлустай зямлёй.

Не мачыха нам, не чужая,
Ад краю да краю — свая!
Усцешыла нас ураджаем,
Як гай салаўіны, стаяў
На полі ўраджай новай долі,

Зажынкаў наблізіўся час.
А беднасць ніколі, ніколі
Не прыйдзе жабрачкай да нас.
Зямля нас усіх накарміла,

Душу нам сваю расчыніла
Ажно да саменькага дна.
Ў зямлі карані нашай сілы,
Пяшчотная маці яна.

## СТАЛАСЦЬ

Што ж... Бяруць сваё гады:
Скроні пасівелі.
Хай сабе тае бяды —
Быў бы край мой малады,
Толькі б не старэлі
Вёскі, сёлы, гарады
Ды каля аселіц
Салаўіныя сады пчоламі гудзелі;
Хай бы быў такім уздым —
З-пад абцасаў сіні дым
На кожным вяселлі;
Падымалі б шчыры тост —
Бунтарнае піва —
За дзяржавы нашай рост,
За жывое дзіва.

Не бяда, што пакрысе
Пасівелі скроні,
Ён мяне яшчэ нясе,
Акрылёны конік.

Гэты конік — хоць куды,
Ён — мая апора...
Быў бы край мой малады,
Мне цішэць не сорам,
Бо ўжо сталыя гады
Узышлі на ўзгорак.

І сягоння бачу я,
Што было, што будзе...
Радасць ясная мая —
Родны край і людзі.

## ВЫСОКІ БЕРАГ

Каліны восеньскі кумач
Іскрыцца. Жоўклая бярозка.
З кудлатай купіны дзяркач
Пабег, пабег у край замо́рскі.

— Ляцім?
— Ляцім!..
І ўжо стрыжы
Пакінулі высокі бераг.
А ты, самотны, не тужы,
Вясна расчыніць зноўку дзверы
Стрыжам сюды, дзе норкі іх,
Дзе ў беразе пясчаным сховы;
Зноў стрыжанятак маладых
Прыкрые ў норцы куст лазовы;

Напоіць птушачак расой,
Накорміць іх стрыжыха-мама;
Прасвішчуць крыльцы над ракой,
Над нашай радасцю таксама.

А я ў вясновую пару
Напоўню песню салаўямі...
Высокі бераг, не гаруй,
Вясна-красна не за гарамі.

# АРЛА НЕ НАРОДЗІЦЬ ВАРОНА

Ідзе пагалоска ў народзе,
Бяжыць ад сяла да сяла:
Варона арла не народзіць,
Баран не народзіць вала.

Я так зразумеў:
                    недарэка,
Гультай, што ў цяньку праляжаў,—
Не стане такім чалавекам,
Якога б народ паважаў.

Дабра не народзіць туляга,
З душой сукаватай лайдак.
Яго абмінае павага,
Бяжыць, уцякае ў хмызняк.

Лайдак! У сумленні ягоным
Пагаслі жывінкі святла...
Арла не народзіць варона,
Баран не народзіць вала.

# КРЫКУН

— Люблю я зямельку! —
Пастукаў рукой
У грудзі, як быццам у бубен.
А ты запытаўся ў зямелькі самой,
Ці трошкі цябе яна любіць?

Зямля цябе корміць і поіць цябе,
Дае паліто́ны і боты.
А ты пабываў на сяўбе,
на касьбе,
Рабіў у ахвоту да поту?

— Люблю я радзіму! —
Як таркай, шкрабе
Па сэрцах.— Люблю штогадзіны!..
А ты запытаўся, ці любіць цябе
Вялікая наша Радзіма?

Яна табе, шчодрая, шчасце дае,
У радасці можаш купацца.
А што ты такое зрабіў для яе,
Каб так перад ёй выхваляцца?

Не будзе дасціпны, сумленны трубіць:
— Глядзіце: такі я адзіны!..
Спакойна і шчыра той будзе рабіць,
Хто любіць зямлю і Радзіму.

* * *

Ніжэй ён травіцы, цішэй ён вады,
Ён гэтакі добры і мілы.
Як прымаўка кажа, заўсёды туды
Гатовы залезці без мыла.

Маіх супрацоўнікаў злосна кляне,
Прысуд ім выносіць суровы.
Салодкія словы яго для мяне
Гарчэй, чым настой палыновы.

Мяне не расчуліш, мяне не кранеш
Няшчырай сваёй пахвальбою.
Наскрозь цябе бачу: няпраўдай жывеш,
Яна валадарыць табою.

Тады ты за мною ідзеш, нібы цень,
Калі ў мяне дзень урачысты.
Чаму ж не ідаць цябе ў горасны дзень?..
Душу сваю здай у хімчыстку!

## НА АБРУСЕ СОНЦА Я НЯСУ

Вунь патронаў гільзы, нібы шышкі,
Жоўтыя, мядзяныя ў траве...
Дні вайны гартаю, нібы кніжку,
Горкі час у памяці жыве.

Мне страхой былі густыя лапкі
На старой, замшэлай яліне;
Мне былі пасцеляю ахапкі
Рыжае саломы ў будане.

Столікам у ім быў пень яловы,
А бяроста лістам мне была.
Помста выкрасала ў сэрцы словы,
Як салдат, на бітву іх вяла;

Іх свінцовым градам не скасілі,
Не забілі злыдні на вайне...
То зялёным колерам, то сінім,
То чырвоным зноўку свецяць мне
Светачы вялікае Расіі,
Светачы ў бацькоўскай старане.

Іх святло, цяпло
пяшчотнай ласкай
Сцелецца у сэрцах у людзей...
Паглядзіце: май нясе нам краскі,
Пад высокім сцягам ён ідзе.

І далей, далей вядуць дарогі
У жыццё, што поўніцца
красой...

Трыццаць год вялікай перамогі
Мы святкуем з роднаю Масквой.
Толькі трохі сэрцу сумнавата:
Мёртвыя не ўбачаць гэтых дзён...
Не прыйсці сябрам на наша свята,
Бо не пусціць іх курган гарбаты,
Не адпусціць іх магільны сон.

Дарагім і родным немагчыма
Выйсці, паглядзець на яблынь цвет.
А таму і іхнімі вачыма
Трэба нам глядзець на белы свет;

Заплятае песню май у краскі,
Абвівае сонейкам людзей.
А на сэрцы лёганька і ясна.
Родны свет — мне друг і дабрадзей.

І гатовы шчыра я пакласці
Сэрца маё ў песенны букет.
Большага няма на свеце шчасця,
Як абняць душою родны свет;

Як жывыя іскры, сэрца іскры
Высяваць у ясную красу...
Дарагія людзі!
                                        Дальнім, блізкім —
На абрусе сонца я нясу.

# СУХМЕНЬ

Спякотны дзень...
Плыве сухмень
Ад хвоі млоснай у бары,
У трэшчынах сухой кары
Слязінкі светлыя жывіцы.
А хай затопчуць камары! —
Няма дзе вожыку напіцца,
Паўзе па верасе, стары,
Нясе на высахлых іглiцах
Лісты пажухлыя...
Сухмень.
Сумуе лось. Каторы дзень
Не піў. Сасмаг. Зусім знямог.
Прылёг рагач на рыжы мох.
Бяда, бяда! Няма вады.
Ад сухавейнае нуды
Схуднела, выцвіла вавёрка,
Трава прапахла пылам горкім,
Завялі ў полі каласы,
Глынуць бы ранішняй расы,
Няма расы і раніцой,
Няма хмарыны дажджавой
На небе ўжо каторы дзень.
Сухмень... Стаіць такі сухмень,
Як у пякельнай той Сахары,
Балоты сталі як выжары,
Усох, змаршчыніўся папар...
— О, грымні, гром! Пярун, удар! —
Усё жывое шчыра просіць.
І пачарнела неба просінь,
І хлынуў белы лівень з хмар.

Лісты-далоні шэры дуб
Дажджу падставіў,
вымыў чуб,
Вясёлкаю падперазаўся,
Шумеў: — Мне лівень дужа люб...
А я таксама любаваўся
Лясамі, кветкамі, травой,
З якіх дажджом журбота змыта.
Ішоў з прасветленай душой,
Вяла мяне дарога ў жыта.

# КАРАВАЙ

— Ой, дабранач, поле! —
пелі жнеі.—
А пара ж нам, жыта, на
вячэру.
Кожны колас даў зярнятаў жменю,
А мы расчыняем насцеж
дзверы
Ў хату маладому караваю:
— На стале пасад свой
занімай!..
Ручніком кужэльным накрываем
Прапацелы, цёплы каравай;
Тую песню мы яму спяваем,
Калі дажынаюць ураджай.

— Каравай, каравай,
Каго хочаш выбірай!..
А каго ж тут выбраць?
Усе шчыра
Працавалі ў полі дзень пры дні.
А магчыма,
выбраць брыгадзіра?
Можа,
падысці да старшыні?
Пакланіцца, можа,
трактарысту?
Можа,
камбайнёру?..
Многа іх.
Прапацелы, цёплы, залацісты,

Пaглядaў на родных, дарагіх.
І сказаў ён шчыра і ўрачыста:
— Выбраў вас усіх, усіх, усіх!

Вы ж мяне паілі і кармілі,
Песняй жаўруковай акрылілі,
Падарылі сонца і зару.
Каб жылі вы, людзі, ў добрай сіле,—
Сілу сваю хлебную дару!

# МАНАЛІТНАСЦЬ

Выпі горыч і слодыч да дна,
Узвалі гора й радасць на плечы...
Сэрца адно і радзіма адна
У мяне і ў цябе, чалавеча.

Сэрцаў другіх і радзімы другой
Нам, таварыш, не трэба, не трэба.
Да радзімы сваёй
Прыкіпелі душой,
Разам з ёю расцём аж да неба.

Молат, і Серп,
І дзяржаўны наш Герб —
У праменнях, у спелым калоссі,
З імі шчасце навек абнялося.

Як не вычарпаць мора да дна,
Так не вычарпаць радасці поўнай...
Сэрца адно і радзіма адна
У мяне і ў цябе, друг шаноўны.

Крочым разам з табой
Па дарозе адной,
Нам крывулек ухабных не трэба.
Над тваёй галавой,
Над маёй галавой
Трэба чыстае, чыстае неба.

## ЮНАЦТВА

Будзь са мной на паверцы,
Зорку шчасця лаві;
Ты, юнацтва, да смерці
Ў маім сэрцы жыві.

Ні табе ў ім няцесна,
Ні тваёй светлай песні,
Ні журбінцы тваёй.
Нам бярозы прынеслі
Маладою вясной
Светласць, нібы бяроста,
Пад якой ходзіць сок.
Шуганула ты ростам
Аж да белых аблок.
Ах, нялёгка, няпроста
Пачынаўся твой крок
На дарозе вялікай
У прастор, за сяло;
Падпяразана лыкам
Ты, юнацтва, было;

Ты пад слотай кувела,
Мерзла снежнай зімой;
Трошкі ты пасівела...
— Я з душой маладой! —
Яно горда сказала.—
Мне старэць не пара;
Папялінкай не стала,
Не пагасла зара
Майго яснага шчасця,
З ім іду на гару;

Я адкрытая насцеж
І святлу, і дабру;
Я гару, не згараю,
Мне не сніцца спакой.
Руку дай! Зноў да гаю
Пойдзем разам з табой;
Дзе глушцоў такавішча,
Бульбу ў прыску спяком;
На свісцёлках засвішчам,
Станеш зноў юнаком.
Пойдзем?
— Пойдзем!..

Паверце:

Я на юнай паверцы,
Іскры, іскры ў крыві...
Ты, юнацтва, да смерці
Ў маім сэрцы жыві!
Я юнацтва ў магілу
Не вазьму: цесна там.
Яго песню і сілу
Я жывым перадам.

## ХАЧУ ЖЫЦЬ МІЖ ЛЮДЗЕЙ

Бывае, бачу я ў туманных марах
Сасну, што вырасла мне на труну.
І я тады прашу сівую хмару:
— Аддай сасну старую перуну;

Няхай пярун у хвою гэтак трэсне,
Каб трэскі паляцелі на траву.
Яшчэ не спеў я самай лепшай песні,
Хоць шэрань мне лягла на галаву.

Такой бяды! Ну, трошкі пасівелы,
Але яшчэ душою малады.
Я толькі пасталелы, памужнелы,
Дык памужнелі ж і мае гады.

А ім за шэсцьдзесят пераваліла,
Яны прайшлі апошнюю вайну...
Няхай бы хмара перуном разбіла
Сасну, што дзесьці спее на труну.

# ПАЯСЫ

Я глядзеў,
                    сядзеў я ціха,
А славутая ткачыха
Ткала шчыра паясы
Чарадзейнае красы,
Ніткай срэбнаю прашыты,
А таксама залатой...
Каласяцца спелым жытам,
Зеленеюцца травой
Слуцкіх паясоў узоры,
Не адвесці мне вачэй:
Купа клёнаў, грэбень бору,
Пад вярбой плыве ручэй,
А ў ім беленькая гуска,
Ды зялёны ліст у ім.
Гэта ж край мой беларускі,
Я душою з дарагім,
З яго полем, небам сінім,
З яго пошумам лясоў...
Добра бачыў і Расію
Я на ўзорах паясоў;

Бачыў матухну-Радзіму
Чарадзейнае красы.
Ахінаюць пабрацімаў
Нашай дружбы паясы.

## ПАРТЫЯ ЛЕНІНА

Кожнаму сёння вядома,
Як гартаваліся сілы:
З буры, маланак і грому
Нашыя выраслі крылы.

Крылы вышэй узляталі,
Неслі да вольнае волі;
Бураю хмару змяталі
З нашай журботнае долі.

Стукнулі, грукнулі буры,
Далі ім волаты сілу.
Свету старога падмурак
Трэснуў, зваліўся ў магілу.

Хлынулі песні натхнення,
Песні душы і свабоды...
Вёў рэвалюцыю Ленін
Разам з магутным народам;

Вёў па вялікай Расіі,
Вёў і па нашаму краю.
Тое, што людзі прасілі,—
Даў ён касцу, аратаю;

Даў плытагону і цеслю,
Кожнай хаціне вясковай...
Нам камуністы прынеслі
Новыя звонкія песні,
Праўду, святло Ільічова.

У нашую бедную вёску
Ленін прыслаў камісара.

Быў ён і шчыры, і свойскі
Вельмі сардэчны таварыш.

Дасць мне, бывала, сухарык,
Песціць мяне, нібы сына.
Воблік таго камісара
Бачу з далёкай часіны.

Рослы, смуглявы, а плечы —
Шула!.. Шырокая шула!..
— Як ты жывеш, чалавеча?
Руку мне гладзіць прачула.

— Мала закваскі рабочай,
Сынку, ў цябе,— ён жартуе,—
У кузні з табой пагрукочам,
Кузня цябе загартуе.

Сам я пагрукаў нямала
Молатам цяжкім у цэху.
Праца мяне гартавала
І рэвалюцыі рэха.
І рэвалюцыі гукі
Ўлітыя ў нашыя сілы!..

Мне ён працягвае рукі,
Рукі — магутныя крылы!
Імі ён чорныя хмары
Змёў з нашай горкае долі...
Вельмі ён шчыры таварыш,
Гэткіх не бачыў ніколі.

Прыйдзе, бывала, ў бушлаце
У нашую ціхую хату:
Весела зробіцца ў хаце,
Нібы ў вялікае свята.

Людна, нібы на вяселлі,
Рады мы ўсе камісару.
Кажа: — Мы ў хатах паселім
Шчасце і светлыя мары!
Я — камуніст... урачыстай
Песняй глухмані абудзім!..
Я зразумеў: камуністы —
Добрыя, слаўныя людзі!

Шчырыя, мудрыя людзі —
Ношу нясуць немалую:
Сонца на досвітку будзяць,
Хай яно ранак цалуе;
Хай у цяплынь і марозы
Нашы акрыльвае сілы...

Партыя Леніна — розум,
Партыя Леніна — крылы
Нашага ўзлёту да славы,
Нашага ўзлёту да шчасця...
Сцягу і гімну Дзяржавы
Душы раскрытыя насцеж.

# РАЗВЕДЧЫК

Быў разведчык ён бывалы,
Смелы, мужны партызан.
Ведаў сцежачак нямала
Праз лясы ў варожы стан.
Нават гера-генерала
Прывалок у той будан,
Дзе быў летам штаб атрада,
Дзе кавалі светлы дзень...
— Камандзір, прымайце гада! —
І баец прысеў на пень,
І сказаў: — Стаміўся вельмі,
Адпачну крыху цяпер.
— Адсапіся... Хто ён?
— Шэльма!
Пакусаў мне рукі гер.

— Не пайду, крычаў, на згубу!
Як падымеш — дык нясі!..—
І — кусацца. А я — ў зубы:
— Ну, цяпер мяне ўкусі!
Як гавораць, бой я выйграў:
Кляп — у пашчу: не крычы!..
— Бачу, братка: зубы ў тыгра
Ты дакладна палічыў.
Вельмі ж нейкі ён памяты,
Замарнелы, небарак...
А ён, лысы, і цыбаты,
І дзюбаты, як гусак,
Паглядаў на камандзіра,
На вінтоўкі ў будане...
— Вы застрэліце мяне?

Камандзір гаворыць: — Не.
Падсілкуйся!
                    І ў мундзірах
Бульбу ў цёплым чыгуне
Ставіць ён на стол з фанеры,
Прастаквашы ставіць збан.
Сам частуе пана-гера
Партызанскі атаман.
Генерал вачам не верыць:
«Можа, нейкі тут падман?
Многа ж ім прынёс пакуты,
А частуюць жа мяне?
Можа, нейкая атрута
У збанку і ў чыгуне?..»

— Не па густу страва наша? —
Запытаўся камандзір.
І зачэрпнуў прастаквашы,
І зняў з бульбіны мундзір,
І сказаў: — Бяры ты лыжку,
Не атруцім мы цябе...

Пасмялеў чужынец крышку:
Бульбу нажыкам шкрабе;
Лыжкай чэрпае са збана
Прастаквашу... Хваліць ён,
Хітры шэльма, партызанаў,
Хваліць шчыры іх закон.

Страсянуў разведчык чубам:
— Ну, ці скора пад'ясі?
Наядайся! Хутка дуба,
Падла лысая, дасі!
— Дуба?
            — Дуба!
                        — Што ён кажа?

Дуб не трэба мне. О, не!
— А зямелькі хочаш сажань?
— Сажань?
— Сажань!
— Мала мне.
— От, хапуга! Сажня хопіць:
Будзе ж добры, жоўты жвір!..
— Супакойся трохі, хлопец,—
Усміхнуўся камандзір.—
Бачыш, ён і не скумекаў,
Што такое: «Дуба даць».
Можа, стане чалавекам?
Як яго пераканаць?..

— Камандзір! А я нязгодны
З вашым вывадам. Дальбог!
Ён жа злыдзень падкалодны.
Стукнуць падлу ды — на мох!

— Ах, блазнота ты, блазнота:
Ён саслужыць службу вам...
Праз Мінаевы вароты
Правядзеш яго ты сам.
Генерала на машыне
Павязуць аж да Масквы...

То па рыжай імшарыне,
То праз шолах баравы,
То па грэблях, па завалах,
Па калючаму галлю —
Вёў разведчык генерала
На Вялікую зямлю.

Генерал — штабная шышка.
У Маскве ён пакрысе
Разгарнуў, нібыта кніжку,

Планы ўсе,
Сакрэты ўсе.

А разведчыку — пашана,
Ён адзначаны Масквой.
Ордэн хлопцу-партызану
Уручылі... Ён — герой!

Гэта хлопца акрыляла.
Ён нібы Напалеон!
Кажа: — Толькі генералаў,
Фон-баронаў у палон
Буду браць! Я вопыт маю.

Браць не буду нейкіх жаб.
Камандзір, я абяцаю:
Прыганю вам цэлы штаб
Афіцэраў, фонаў, гераў,
Фашыстоўскіх главароў!
Мо не верыце?
— Паверу,
Як прыгоніш... Будзь здароў!

Зноў пайшоў хлапец удалы,
Рослы, моцны, як той граб,
Каб прывесці генерала,
А магчыма, цэлы штаб!

У кустах, траве пажухлай
Лазіць, поўзае хлапец.
Бачыць ён — выходзіць з кухні
Нейкі тып, як жарабец,
Атлусцелы,
Разамлелы,
Белацелы,
У трусах...

«Шышка? Шышка, зразумела!
Ну, вядома ж — важны птах!
Бач, гуляе на прыродзе...
Вунь у рэчку плёхнуў ён...»
— Гэй, ты.. ваша благароддзе!
Вам не хочацца ў палон?
— Я...
— Ага! Што зырыш вочы?
Ну, хутчэй вылазь, галяк!..
У палон ісці не хоча,
Адбіваецца чужак.
— Ах, ты гэтак? А я так!
Даў у пуза, як у бубен,
Ды рабрыны палічыў,
Ды пачысціў трохі зубы.
Кляп — у пашчу: не крычы!..
І прывёў баец бывалы
Галяка да буданоў.
— Штаб — не штаб, а генерала,
Камандзір, прывёў я зноў!
— Генерала? Дзе ж адзнакі?
Толькі ў тлушчы кумпякі.
— Дык яго ж я, небараку,
Галышом узяў з ракі.
Атлусцелы,
Белацелы,
У раку кульнуўся ён...
Хто такі? Незразумела.
Можа, нейкі фон-барон!
Камандзір спытаў:
— Эй, пухлы,
Хто ты? Чын твой? Што за тып?
— Кухар я. Раблю на кухні.
— Кухар?!
— Кухар...
«От уліп! —

Думае баец бывалы.—
Мне папаўся з кухні краб!..»
Аж дуброва рагатала:
— Малайчына! Цэлы штаб
Ён прывёў! А «штаб» той — кухар!
Прывалок яго хлапец!..
Зноў патыліцу пачухаў.
— Прывяду! — сказаў баец.
Дружбакі жартуюць:
                    — Пуза
Выламі яшчэ ў вадзе!
— Хлопцы! Штаб — не штаб,
                                        а туза
Прывяду!
            І ў шлях ідзе...
Веру цвёрда: прывядзе!

# БОЛЬ І ПЕСНЯ

*Памяці Героя Савецкага Саюза*
*Міхася Сільніцкага*

І цяпер, і сягоння
З тых пакутлівых дзён
Бачу воблік ягоны,
А прываблівы ён:
Яснавокі, русявы,
Рослы, стройны хлапец.
Быў увенчаны славай
Партызанскі баец.

Яго помста вадзіла
Па сцяжынах на бой.
У сырую магілу
Ён забраў за сабой
Чужаніцаў нямала,
Іх цягнік не адзін...
Штось мяне пагукала
Да зарослых сцяжын,
Што ягоныя боты
Пратапталі ў вайну...
Ахінае журбота
І мяне,
 і сасну,
Пад якою сухарык
Хрумстаў ён, партызан;
Пра той час добры марыў,
Калі ў цёмны будан
Прыйдзе нашае свята
Перамог і вясны...
Смуткаваннем працяты
Нават шолах лясны.

Памяць сэрца ніколі
Не закрэсляць гады;
Пры бярэзніку ў полі
Ён упаў, малады.

Бачыў ён яшчэ просінь
Праз галіны бяроз.
— Просім,— шасталі,— просім,
Падымайся...
Прырос
Да зялёнай, умытай
Першай траўкі. Ляжыць.
— А няўжо нежывы ты? —
Усім голлем дрыжыць
Маладая бярозка
Ад журбы, ад бяды.—
Падымайся.
Вунь вёска.
Пойдзем разам туды...

Не ступіла ні кроку
Ад яго, без яго.
Зорка, яснае вока,
Падміргнула: — Чаго
Ты ляжыш, небарача?
Уставай, пасвячу.

Каб сцяжыначку ўбачыў,
Каб, хлапчына, пачуў,
Як туман сіні ліжа
На палетках снягі;
За алешнікам рыжым
Ужо чутна: кі-гі...

Бачыў ён яшчэ просінь
Праз галіны бяроз...

Думы. Мроі. Ён косіць,
Гоніць, сцеле пракос...

Ціха вецер зашастаў,
Па пракосе прабег...
О, юнацтва, юнацтва —
Незабыўнасць уцех!

Ты яго акрыліла
На высокі палёт.
Ты на подзвіг натхніла,
На бяссмерце ў той год.

Перайшоў з дамавіны
У легенды юнак.
Дык не плачце, рабіны,
Не сумуй, беразняк.

Перайшоў ён у песні,
Камсамолец. Герой...
А чаму сэрцу цесна?
Сэрца сцята журбой.

Боль сціскае мне грудзі,
Боль, як горкая соль...
Людзі! Ведайце, людзі:
Ён, Сільніцкі,— мой боль.

Ён — і нашая сіла,
Песня сцежак лясных.
Не забраў у магілу
Маладое вясны;

Не забраў шматгалосся
Салаўіных бяроз...
Зноў красой налілося
Там жыццё, дзе ён рос;

Дзе варожыя каскі
Паржавелі ў траве...
Ён, як дабрая казка,
Ён, як песня, жыве.

І цяпер, і сягоння
З тых пакутлівых дзён
Бачу воблік ягоны,
А прываблівы ён:
Ружашчокавы трошкі,
Стан узяў у бяроз.
Вочы? Вочы — валошкі,
Чуб — даспелы авёс...

Да магілы сцяжына
Між рабін і калін.
Перайшоў у быліны
Русі Белае сын.

## ХІТРУХА

Баба кажа камару:
— Натаўчы мне маку.
Макавухі навару
Я табе, гуляку.

— Макавухі?
— Далібог!
Ну, давай! Чакаю...
Затрубіў камар у рог,
Камароў склікае.

Прыляцелі памагчы,
Каля ганка тупат.
Цюку-стуку таўкачы
У камарынай ступе.

Баба ў печ паклала дроў,
Маку ўсё чакала..
— Ах, вы, шэльмы!
Камароў
Венікам прагнала.

А мядзведзю-пчаляру
Баба кажа: — Слухай,
Мёду дай, дык навару
Медавухі, адару
Моцнай медавухай.

— Медавухай?
— Далібог!

Згода, Мішка?
— Згода!..
І пайшоў, пад елкай лёг,
Не нясе ён мёду.

— А няўжо схлусіў ён мне? —
Баба выйшла з хаты.—
Можа, дугі ў лесе гне
Дурань ленаваты?

Аддае казлу загад:
— Даглядай капусту!
— Я магу! Я вельмі рад!
Гэта мне па густу...

Пераскочыў цераз плот:
— Прапалю я грады!..
Баба выйшла ў агарод,
Дайце ж, людзі, рады!

І казу пазваў казёл,
Казлянят прывабіў.
Голы, гол як той сакол
Агародзік бабін.
Свет старой нямілы стаў,
Нібы ён карае...
Шпак на ліпе засвістаў:
— Зразумей, старая,
Таўкачыкі-камары,
Ні мядзведзі-пчаляры,
Ні казёл-рагацік —
Не памогуць у двары,
А таксама ў хаце...
Медавухі навары
Сама сабе, свацця!

# ДАБРАДЗЕЙ

Пакахаў дзяўчыну ён,
Агарнуў павагай:
Страціў супакой і сон,
Страціў раўнавагу.

— Твой увесь я: забяры
З гэтай шапкай, світай!..
— Чаравікі падары,
Серабром прашыты.

Аж падскочыў: — Гэта ўраз!
Гэта мне пад сілу!
І дастаў у той жа час
Малаток і шыла,
Ніткі срэбныя дастаў,
Скуру і падкоўкі.
Так шаўцом хлапчына стаў,
Ды яшчэ як лоўка
Чаравікі вышыў ёй.
— Во! Бяры. Гатовы.
— Дзякуй,— кажа,— голуб мой.
А цяпер зімовы
Мне пашыеш палітон
З гарнастаяў белых.
— Гэта ўраз! — і выбег ён.
Праца закіпела.
Шкуркі белыя дастаў,
Ніткі і машыну.
Шые, строчыць...
Хутка стаў
І краўцом хлапчына.

Да дзяўчыны: — Во! Правер:
Шкурка ў шкурку ўліта.
— Дзякуй, мілы. А цяпер
Мне вазок зрабі ты.
А я ўсядуся ў яго:
Гайда ў шлях зімовы!
— Дам вазок! — хлапец бягом
За сяло ў дуброву.

З грабу высек палазы
Ды загнуў, як рожкі,
Ды распарыў ён вязы,
Выгабляваў дошкі;

Добра, моцна прыхвастаў
Да палоззяў шыны.
І вазок гатоў, і стаў
Сталяром хлапчына.

Ды — ў аглоблі. Прывалок:
— Во! Давай садзіцца.
— Дык жа снег растаў — пясок
На шляху пыліцца.

Вунь з пупышак беразняк
Расхінае крыльцы.
А табе скажу я так:
Сілу дай касілцы.

— Сілу дам! — і ў кузню ён:
Молатам грукоча.
І ляціць кавадла звон
Ад відна да ночы.

Дзьме мяхамі на агонь,
Чуцен шоргат пілкі.

Сіла дужых рук яго
Перайшла ў касілку.

Фарбы яркае дастаў —
Асвяжыў машыну:
Ёсць касілка! —
Добрым стаў
Кавалём хлапчына.

Да дзяўчыны:
— Атрымай!
А ў прыдачу забірай
Сэрца, калі ласка!..
— Ты мне тую рыбку дай,
Пра якую казка.

Ён — у мора:
пад вадой
Ловіць рыбу тую
Ды к дзяўчыне дарагой:
— Во! Бяры жывую!
А дзяўчына:
— Мілы мой,
Дай мне залатую.—

І смяецца:
— Галубок,
Дай шапну на вушка:
Хай табе твой акунёк,
Трэба мне —
Жар-птушка.

Уздыхнуў ён — ды ў сасняк,
Ды ў глухмень дубровы,
Ды к дзяўчыне, небарак:
— Во! Дарунак новы!..

— Дык жа гэта сіваграк,—
Злосна хмурыць бровы.

Загадала: — Забяры
Гэтую варонку.
Салаўя мне падары,
Каб спяваў ён звонка.

— Салаўя табе?!
— Ну так,
Салаўя мне з гаю.
Спахмурнеў, стаіць дзівак,
Кажа: — Пашукаю.

Паваломся...
У гаі
Свежы дух вясновы.
Аж ракочуць салаўі —
Месяц ім мядовы.

Тут любога выбірай
Ды бяжы, шчаслівы...
То ж не гай,
А нейкі рай,
То ж не гай,
А дзіва!

Травы, краскі, кожны ліст
На бярозе, клёне —
Салаўіны ловяць свіст,
Скачуць у тым звоне.

Бацюхны! Вядзе, вядзе
Пад кроны густыя —
Зачарованы ідзе
Ён праз песні тыя,

Што зіхцяць у кроплях рос
На лістах дубоў, бяроз,—
Гай заплёў у песні лёс,
Шчасце і свабоду...

Салаўя ён не прынёс —
Хай пяе народу!

## СЦЯПУРА

Помню прымаўку з пары далёкай:
— Сокал сокалу не выб'е вока.
Не дапусціць сокал гэткай хібы...
— Хто ж тады вам, дзядзька, вока выбіў?

Пацямнеў, сказаў: — Каршун зіркаты.
— З каршуном вы біліся? — пытаю.
Ён, стары, вусаты, лысаваты,
Кажа: — Крыўды на яго не маю.

— А чаму?
— Дык я ж яго ўкакошыў.
— Каршуна?
— Адстань!.. Кузьму Бісюру.
— А за што?
— Было за што... За грошы.
Пяць рублёў маіх прысвоіў, дурань!

— Толькі пяць рублёў?!
І вам не сорам?
А ён, цяжкаю жалобаю спавіты,
Кажа: — А было ж такое гора:
Хлеб тады мне кроіла абора,
Ды была падшыта ветрам світа...
Пяць рублёў — ого! Купіць мог дошкі
На шалёўкі новыя, на дзверы...
Я маўчу. Шкада старога трошкі,
Але ў дабрату яго не веру.
Думаю: «Разбойнік! За пяцёрку
Закапаў вяскоўца ў жвір глыбока!..»

А стары ўсміхнуўся неяк горка,
На мяне глядзіць адзіным вокам.

У ім бачу смутак і трывогу,
Роздуму ў самотным воку поўна...
— Хутка я ў апошнюю дарогу
Паплыву ў труне — жалобным чоўне.

І прыгорбіў плечы, небарача,
Быццам узваліў на плечы глыбу,
Кажа: — Ў снах Бісюру часта бачу,
Чую, як стукоча ён у шыбу,
Як гаворыць:
— Я прынёс пяцёрку!
Уставай! Вазьмі сваю паганку!..
І стаіць, і ходзіць па надворку,
І стаіць, і тупае на ганку;
Клямкай ляскае,
грыміць, як бура:
— Уставай! Выходзь, Сцяпура,
з хаты!..
І прымоўк, сядзіць стары Сцяпура,
Цяжкаю пакутаю працяты.
Я таксама ўныў, як на хаўтурах,
Мне таксама трохі сумнавата,
Думаю: «А можа, вінавата
Вёскі заімшэлай тое гора,
Што было журботаю спавіта,
Калі хлеб раскройвала абора,
Ды была падшыта ветрам світа,
Ды хаціне чорнай, крывабокай
Трэба былі дошкі і бярвенні».
А Сцяпура ў роспачы глыбокай
Уздыхнуў: — Аддаў бы й гэта вока
За сумленне...
Хмара на сумленні.

І, здаецца, хата пасвятлела,
Зайчык сонечны па шыбе скача.
Бачу: не зусім яшчэ замшэла
У Сцяпуры сэрца; зразумела
Грэх свой, калі моліцца і плача.

Я сядзеў у роздуме глыбокім,
Прыгадаўшы прымаўку старую:
— Сокал сокалу не выб'е вока...
Зразумелі?..
Прымаўку шаную!

# ВАСІЛЬ ВАШЧЫЛА

З вякоў сівых данеслі нам быліны,
Як ворагаў Вашчыла пакасіў...
Магчыма, ацалелая галіна
Вашчылаўскага дрэва наш Васіль?

Пра гэта нам дакладна невядома,
Ды ў нашым краі ведаюць усе:
Васіль Вашчыла — сакратар райкома,
Цяжкую службу ён даўно нясе.

Ён звязаны не толькі правадамі,
Шнурамі тэлефонных трубак —
звязан ён
Душою, кожнай жылкаю з лясамі,
Палеткамі, прасёлкамі, лугамі,
Са скібамі вясновых баразён.
Гаворыць ён у полі з каласамі,
А больш за ўсё гаворыць з людам ён.

Яго дарога з перуноў і грому,
З вясёлак і свінцовых сініх хмар...
Мая паэма — сельскаму райкому,
Табе, табе, Вашчыла-сакратар.

## I

З твайго маленства шчыры сказ
Я пачынаю...
Горкі час
Цябе не песціў, Васілёк,
А ты, як шустры ручаёк,

Які хаваецца ў траве,
Хаваўся ў ціхі хмызнячок,
Калі грымота зараве,
Калі град з хмары секане
І не відаць у тумане,
У белым ліўні
ні бароў,
Ні лугавін, ні мокрых коп,
Ні ў лазняку густым кароў.
А ты пад мокрай світкай соп
І саграваў там сам сябе,
А статак луг ужо скубе,
Туды завёў кароў бугай...
— Павешу шкета на вярбе!
Агу-у, пастух! Дзе ты, гультай?!
— Даруйце, дзядзечка.
— Ах, шкет,
Табе я ногі паламлю!..
І ты пабег, а ён услед
Тупоча ботамі.
— Злаўлю! —
Крычаў раз'юшаны мужык,
Уласнік хутара, кулак.
— Злаўлю, нягоднік!..
Злосны крык
Пагнаў далей цябе ў хмызняк,
У багну «чортавых акон»...
Туды не мог дабрацца ён,
Стары, кудлаты барадач,
Стаяў і слаў табе праклён,
Пасля пайшоў...
Скрыпеў дзяркач,
Гукаў пугач: — Хлапец, не плач,
Ты ж — лесавік. У лесе ўзрос...
А не стрымаць гаручых слёз.
Прысеў пад кустам, на карчы,

І хоць кукуй, і хоць крычы:
Пачуюць толькі тут сычы,
Ды пугачы ў глухой начы,
Ды азярцо зялёных жаб...
Зусім змарнеў, зусім саслаб,
Змыкае вейкі млявы сон,
А трэба з «чортавых акон»
Пацiху выбрацца, ісці...
«Глухая багна, прапусці,
Пад ногі купіны кладзі,
Дубцы і чорныя карчы;
Мяне на ўзлесак правядзі,
Няўжо не хочаш памагчы?..
Няма мне часу. Трэба мне
Знайсці, загнаць у хлеў кароў...»

Блукае ў белым тумане,
У хмарах шэрых камароў.
Ступіў на купіну нагой,
А купіна густой іржой,
Вадою жоўтай залілася;
На корч ён скокнуў, як бакасік,
А корч прарваў балотны мох,
Пад ім гнілая калатуша.
Бяда! Зусім хлапец знямог.
«Няўжо затопіць і задушыць
Балота чортава мяне? —
Хлапец трывожыцца.— Аж не,
Прарвуся! Я тут не загіну!..»
Зялёнай бросняй, сіняй цінай
Аблеплены да шыі ён,
А трэба з «чортавых акон»
Яму дабрацца да сцяжыны.
Дрыгва варушыцца, сапе,
Сіпіць гнілою калатушай.
Паўзе ён. Выпаўз. У капе

Сябе зляжалым духам сушыць.
Да мокрай вопраткі мурог
Наліп. Хлапец як шэры вожык.
Ён так змарыўся, так знямог —
Устаць з капы ніяк не можа.
«А дзе каровы? Іх нідзе
Няма». Трывогаю ахутан.
Устаў, прыгорбіўся, брыдзе,
Нібы на могілкі, на хутар.
Працят бядою пастушок,
За крокам крок,
За крокам крок,
Ледзь ногі ў хутар давалок,
Зайшоў адразу ціха ў хлеў,
Ажно душой павесялеў:
Стаяць каровы там усе...
«А што дзень новы прынясе?
Прагоніць, мусіць, гад мяне?
Пусціў жа статак на лужок...»
Ажно мурашкі па спіне,
Трывожны нейкі халадок.
Ісці баіцца ў хату ён.
З яе выходзіць злыдзень сам;
Зірнуў, здзівіўся: «Сон — не сон?
Уцёк ён з «чортавых акон»!
Не захлынуўся, падла, там».
Падумаў, кажа: — Недадам
Табе рублёў я чатырох.
— Чаму?
— Стаптаў, стравіў мурог.
— Яго ж патоптана няшмат.
Загнаў мяне пад елку град,
Схаваўся там...
— Замоўкні, шкет!
Яшчэ апраўдваецца ён...
— Пайду я, дзядзька, ў сельсавет,

Ён — наш суддзя і наш закон.
— Што скажаш там?
— Мой белы свет
Тапілі ў «чортавым акне»,
Душылі багнаю мяне.
— А сведкі дзе?
— А вось яны:
У ціне світка, і штаны,
І шапка, і кашуля.
Ну, што? Вы сведак чулі?..

Развёў рукамі барадач:
— Ты што? Палохаеш мяне?
Я вол! Ты шэранькі дзяркач,
Сучок маленькі ў бервяне!..
— Сучок у воку вашым я.
І праўда горкая мая,
Як бервяно, пілуе вас...
— Ну, годзе! Статак на папас
Гані хутчэй. Цяпер якраз
Трава расяная. Гані!..

А сам у гэты ранні час
Гарэў, як быццам у агні,
Трывожыўся, сіпеў: «От шкет!
Ці чулі? Пойдзе ў сельсавет!
Ён, бачыце, яму — закон!
А што? І пойдзе, мусіць, ён?
Магчыма, шэльма, прасачыў,
Як я закопваў уначы
У ямах жыта і авёс?
Дабра Саветам не завёз.
А што, як зробіць ён данос?
Бяда! А што прыдумаць мне?
Яго і ў «чортавым акне»
Я не ўтапіў... Забіць — ды ў жвір?

А што тады? Мяне — ў Сібір?
На Салаўкі мяне тады?..
Ну, як пазбавіцца бяды?
А ліха матары тваёй!..
Эге, прыдумаў: раніцой
У торбу сала і кілбас
Пакласці трэба. Хай між нас
Не будзе цёмнае сцяны...
У горад ехаць мне якраз,
Куплю я там яму штаны,
Дальбог, куплю! От будзе рад;
Пераніцую на свой лад,
Яго хрыстосікам зраблю,
Слухмяных, ціхенькіх люблю...»

А думкі іншыя зусім
У пастушка былі тады:
«Не будзе ладу, згоды з ім!
Прагоніць?.. Хай! Такой бяды,
Ну, не сышоўся ж клінам свет.
Знайду работу. Сельсавет,
Напэўна ж, дапаможа мне...
А тое збожжа, што ў гумне
Ты закапаў — дык не сакрэт.
Яно ж у ямах. Скрыні там,
А ў скрынях жыта і авёс.
Спажыць дабро табе не дам,
Згнаіць не дам!.. Галодны лёс
Цяпер у гэтакіх, як я,
Твая ж кулацкая сям'я
Жарэ кілбасы і бліны,
Вы, жывяце, нібы паны.
За тынам ваш вялікі сад
Ад садавіны плечы гне,
Стаяць вуллі за радам—рад,
Ды мёд іх горкі для мяне.

Чмялінай чарачкі мядок
Мне саладзейшы, ён усмак;
Яго дае мне сам лужок,
Сам чмель пушысты, не кулак...»
Высокі поўдзень. Санцапёк,
Прылёг пад кустам у цянёк,
Сасмяглы, стомлены, бядак.

У думках-марах, як у сне,
Ідзе па свежай баразне,
Яна вядзе яго, вядзе
Па зяляніне, па вясне,
Па радасці і па бядзе;

Вядзе праз песні жаўрукоў,
Ён долі новай вельмі рад:
Ні кулакоў,
Ні парабкоў
Няма зусім.
Кулацкі сад
Вяскоўцам яблыкі трасе
І на траву, і на тыны.
А тыя яблыкі ў расе,
І на зубах хрумсцяць яны.

І ўжо нібы адчуў іх смак,
І крыўдна робіцца яму:
Храбусціць яблыкі кулак,
Ягоны сад. Не лезь!..
«Чаму
Яму ўсё робяць парабкі,
Яны вунь косяць ля ракі,
Наставілі багата коп;
Да снопа сноп,
Да снопа сноп
Складуць у мэндлікі жанкі.

За нейкі грош,
За бульбы кош
Яны жнуць жыта дацямна,
Чарнеюць, сохнуць.
Дык няўжо ж
Не крыўдна гэткая цана?
Калі ж у жоўты жвір труна
Пакуту нашу забярэ?..»

Чырвоным сонцам дагарэў
Вячэрні сіні небакрай.
Кароў на хутар сам бугай
Паважна, ціхенька вядзе,
Нібыта бог, у чарадзе.
От выйшаў з хаты гаспадар.
Сказаў: — Прывёз табе штаны,
З крамніны файнае яны,
Тавар! Глядзі, які тавар!
Каб затаптаў цябе камар...

Мядовы нейкі галасок,
Хітрыначкі ў вачах яго.
Не лыкам шыты Васілёк,
Скумекаў, што і да чаго.
«Купіў штаны ён... А мяне
Не купіш. Дудкі! Я данёс,
Што скрыні ў ямах, у гумне,
А ў скрынях жыта і авёс».

Кулак лісліва: — А як там...
У вашай вёсцы, у бацькоў?
Ні зернятка, ні пацукоў?..
Бацькам я здору скрутак дам.
Яны ж не колюць парсюкоў.
Бяда, бяда... Бывала, сам
Не бачыў скваркі шмат дзянькоў.

Развойкаўся хітрун стары,
Хоць ты кіёчак падары
І жабракову кайстру.
Хлусіць,
Круціць
Ён майстра!..

Глухая поўнач. Супакой.
На канюшыне, пад страхой,
Васільку не спіцца штосьці:
Гасцей чакае раніцой...

Прыйшлі на хутар госці,
Сабакі рвуцца з ланцугоў,
І ні чарцей, і ні багоў
Тут не памілуюць яны,
Хапаюць выжлы за штаны...
Жартуюць госці:
— На бліны
Прыйшлі мы, дзядзька Апанас.
— Заходзьце ў хату! Там якраз
Патэльня запішчала.
Чаму ж? Гасцей такіх у нас
Частуем. Праўда, мала
Прысмакаў: блін ды сала.
— А хлеб? Уцёк надзённы хлеб?
Схаваўся, можа, у гумне?
— А, братачка!.. Дубовы цэп
Снапоў не бачыць. Ён аслеп.
Ён каласочка не кране.
— А мы дык бачым пад зямлёй:
У ямах ваша збажына.
— Няма! Клянуся барадой.
— А мы зусім не верым ёй,
Хітруе, хлусіць і яна...
Стары абмяк, уныў душой,

Сядзеў на лаве, ля акна,
А гэтай самаю парой
Падводы ўз'ехалі на двор...

— Рабуюць! Душаць! Божа мой!
Чаго стаіш, як пень, Рыгор!
Даніла, драбавік бяры!
Бярыце вілы, тапары! —
Крычаў сынам і батракам.—
Згнаю! Саветам не аддам!
— Ты не сіпі, стары гусак!

Ён з ланцугоў спусціў сабак.
— Кусі, кусі! — хрыпеў кулак.
— У будку, падлы! —
Васілёк
Іх улагодніў, павалок
Да цёмных будак на двары...
— Заб'ю! Ах, ты, паганы шкет!
І камсамол, і сельсавет
Прывёў! — І рынуўся стары
З калом.
— Пастой, шалёны дзед!
І я пакіну хутар твой,—
Батрак у гневе гаварыў.—
А ты?.. Сушы, дзед, сухары,
Сваёй размочыш іх слязой...

З двара падводы раніцой
Плылі, свіргочучы, на шлях,
Сядзеў Вашчыла на мяхах.

## II

Як дзеці ўсе, вучыўся ў школе,
Як дзеці ўсе, ты жыў і рос;
Баразны клаў у родным полі,
Траву касіў у сенакос.

Была нялёгкая работа,
Але была яна ў ахвоту,
Рабіў сабе, на свой калгас...
Юнацкі час,
Далёкі час.
Ды ў памяці ён не пагас,
Ён не забыты. Добра помніш,
Калі за вёскай ноччу цёмнай
Спаткаў цябе кулацкі сын,
А быў ён, злыдзень, не адзін,
Былі яшчэ з ім два бадзягі,
Як здані снежных Салаўкоў...
— Здароў, арцельны рабацяга!
Прымай у госці землякоў.
Ты ў камсамоле — верхавода!
А помніш, як прывёў падводы,
Прывёў сваіх рабаўнікоў?
Забралі хлеб! Забыўся, можа?
Маўчыш? Вады набраў у рот?
— У ямах вы гнаілі збожжа,
Аж трохгадовы умалот.
А галадаў тады народ...

— Ці чулі вы? Ён — Сценька Разін!
Магчыма, нават Пугачоў?
— А ты чаго па хмызе лазіш?
Пасеш на лузе дзеркачоў?
— Ці чулі вы? Жартуе хлопец!
— А не да жарцікаў табе.

— Замоўкні, падла! Жартаў хопіць!
Заб'ём каламі! Раздзяўбе
Груган цябе. Ён вып'е вочы,
Не ўбачыць больш ні дня, ні ночы
Табе, таварыш камсамол...

Ты вырваў з рук ягоных кол,
Бандыту даў па галаве,
Упаў ён, поўзае ў траве,
Скуголіць цюцькам, воўкам вые,
А два бандыты, злыдні тыя,
Цябе з ног збілі, павалілі,
Таўклі, дубасілі, мясілі...
— Хадзем... Дабілі важака!
І затрашчалі ў хмызняках...
Туманны ранак — белы птах —
Плыў над ракою. Усплывала
Паціху сонца і ўмывала
Расою твар свой залаты.
Ляжаў ты на траве завялай,
Нібы яна, завяў і ты.

Да ран прыкладвалі трыпутнік,
Каб выпіў ён пякучы боль.
Пасля бальніца. Ты, пакутнік,
Ляжаў на ложку дагары.
Ступалі ціха дактары,
А ты ляжаў, глядзеў у столь.
Яна звісала, нібы века
Труны сасновай, над табой.
— Сынок... Сыночак... Недарэка...—
Працята жальбай і бядой,
Стаяла маці ды хусцінкай
Мух адганяла ад цябе.
— Не памірай... Ты чуеш, сынку?..—
Шаптала ціханька ў журбе.

Прыгорбіўшы худыя плечы,
Яна выходзіла, а ты
Ляжаў у ложку, як малеча,
Спавіты ў белыя бінты.
А з кветкамі прыйшлі пад вечар
Сябры — вясковы камсамол.
— Ну, як цябе тут, братка, лечаць?
Ці скора вылеціш, арол?..

Ты быў прыкуты да пасцелі.
Калі ўжо яблыкі паспелі,
З галінаў шпокалі ў траву,—
Адчуў жыццё ў збалелым целе,
Узняў з падушкі галаву.

Ледзь, ледзь яшчэ ступалі ногі,
Не мог дайсці і да парога
З кутка ад белае сцяны.
А турбавала ўжо трывога:
«Дзе злыдні?.. Дзе цяпер яны?..»
Уся ячэйка памагала,
Заўжды з табой яна была,
Сляды бандыцкія шукала
Ў асінніку каля сяла.
Магчыма, восень прыхавала,
Лістамі след іх замяла?
Магчыма, гады ў нейкіх норах
Ці пералезлі за кардон?..
Сядзелі ў хітранькіх дазорах
Хлапцы, дзяўчаты многа дзён;

Сядзелі повідну і ў змроку:
«Калі ж пакажуцца? Калі?!»

Яны ў капліцы крывабокай,
Яны на могілках жылі.

Харчы насіў ім у капліцу
Млынар, падкуплены мужык,
Пацiху ў тую таямніцу
Дазорны наш хлапец пранік.

— Іх трэба браць!
Усю дружыну
Павёў ты ў змрок, праз туманы...
— Выходзьце, падлы!..
Стралянінай
Табе адказвалі яны.
У іх наганы. Вы з каламі.
У іх абрэз. Сякера ў вас.
З ваўкамі быць — дык і ваўкамі
Патрэбна выць у горкі час.
Не ўзяць жа голымі рукамі
Такіх разбойнікаў!..
Якраз,
Пачуўшы стрэлы, участковы
Прымчаўся злосны: — От галовы!
Хаця б зайшлі вы ў сельсавет!
За мной! — узрушаны, суровы,—
За імі ўслед,
За імі ўслед.
— За мной! Разбойнікаў дагонім!
З вінтоўкі стрэліў: на загоне,
Каля сіўцовае мяжы,
Бандыт застрэлены ляжыць.
А прадаўжаецца пагоня.
Ён стрэліў зноў: другі на мох
Упаў, зваліўся, трупам лёг.
Бяжыць адзін кулацкі сын,
У хмызняку, у тумане
Сябе хавае хутаранін:
«Збягу! Не возьмеце мяне!
Не дамся вам на пакаранне!..»

Ён быў уцёк... Ён ведаў сховы.
То за куп'ё, то ў куст лазовы,
То ў мох зашыецца, як гад,
А ні наперад, ні назад
Няма дарог. У тумане,
У змроку збіўся са сцяжын.
І там, у «чортавым акне»,
Пайшоў на дно кулацкі сын...

Ягоны бацька гэткай долі
Табе, Васіль, жадаў.
То ён
Лавіў цябе ў калючым голлі
І гнаў да «чортавых акон»...

А дзе цяпер ён, хутаранін?
Куды дарогі завялі?
Магчыма, дзесьці за курганнем,
За нейкай сопкай у зямлі

Струхнеў? І крыж у павучынах...
А ты ідзеш сваёй сцяжынай
У родны свет...
У інстытут
Паехаў ты. Твой родны кут
Чакаў, чакаў твайго звароту
Чатыры з хвосцікам гады.
І дачакаўся... Да работы
Дарваўся, дужы, малады.

Васіль Данілавіч! — тады
Цябе ўсе звалі,
паважалі.
Чаму ж? Вучоны чалавек!
Правёў каналы. Багны сталі
Дабро даваць у наш засек.

А ты выходзіш росным раннем:
Жаўрук звініць у сіняве,
Цвыркочуць конікі ў траве...
Часінай нейкай хутаранін,
Як барадатае паданне,
У думках хмарай праплыве.

І неяк зробіцца самотна,
І крыўдна стане на душы
За дні мінуўшчыны гаротнай,
Калі кулак цябе душыў...

Плыве духмяны ветрык з лугу,
А сонца песціцца ў рацэ.
Ідзеш ты з ім,
як з верным другам.
Прамень яго ў тваёй руцэ;

Ён у вачах,
жывы агеньчык,
Зіхціць, іскрыцца ў сэрцы ён.
Ты з доляй сонечнай абвенчан,
Са шчасцем ясным заручон.
Не заручоны толькі з тою,
Што стала мараю тваёй.
Нібыта сонца маладое,
Яна ў касынцы агнявой,
Як пройдзе ў жыце ці ў прысадзе —
Зямля, здаецца, запяе.
У шчырай дружбе, добрым ладзе
З душой тваёй душа яе.

І толькі бачыў сіні вечар,
Як цалаваў яе крадком,
Як накрываў дзяўчыне плечы
Сваім картовым пінжаком;

Як ты гарачаю шчакою
Пяшчотна гладзіў ёй шчаку.
У сінім зорным супакоі
Блукалі ўдвух па халадку.

## III

— Горкі хлеб!
— Горкі мёд! —
Гукаюць сват і сваццся.
Вясельны дружны карагод
У Васілёвай хаце.
— Горкі мёд! Горкі хлеб!..
Васіль, цалуй Мальвіну! —
Гукаў стары.— Я не аслеп:
От жоначка-маліна!..
Васіль Данілавіч, дальбог,
Арол я, не атопак!
Пяць сыноў, дзевак трох
З Тэкляю адхлопаў!
А што ж? Магу!..
А ўжо не мог
Стаяць, прысеў на ўслонік...
І скрыпкі, і гармонік
Загралі. Бубен — бух ды бух,
Ажно ўздыхае бубен...
— Васіль Данілавіч, мой друг,
Па келіху прыгубім?
— Чаму ж? Прыгубім!
Наліваў
Васіль суседу кубак.
А той яго пацалаваў,
Глынуў і гаркнуў:
— Люба!
Люба, братцы, жыць! —

І страсянуў ён чубам:
— Прэч з дарогі, хто чужы!

І чачотка сыпанула
З-пад абцасаў, як гарох.
— Жонка, чула ці не чула? —
Сам сабе я сёння бог!
Паважаюць мяне масы,
Сельсавет і ўвесь раён!..
Сыпле, сыпле з-пад абцасаў,
Як гарох, чачотку ён...

— Спыніся, братка...
На плячук
Васіль паклаў далоні.
— Чаму?
— Я радыё пачуў:
Вайна...
Вайна?! Сягоння?!
. . . . . . . . . . .

Вяселле смутак агарнуў
І сэрца кожнага крануў,
Пайшлі ўсе ціха з хаты.
— Бывай, Васіль...
— Бывай, сусед...
Пайшлі, як з пахавання...
Васіль — хутчэй у сельсавет,
Цяпер не да гуляння.

У сельсавеце цішыня,
Кудлатая дакука.
І толькі злосна старшыня
Па тэлефоне стукаў.
У трубку дзьмуў і хукаў,
Крычаў: — Раён!

Маўчаў раён.
— Крутні, Васіль!..
І ў злосці
Таксама ў трубку хукаў ён,
Казаў: — Няладна штосьці
Сягоння, друг, у правадах,
А старшыня яму:
— Бяда!
Ні шолахаў, ні гукаў.
Аловачкам пастукаў
Ён па стале. Сказаў:
— Васіль,
Паўсвету немец размясіў,
Вядзе вайну дарога
Да нашага парога,
Даўно ў душы сваёй насіў
Я нейкую трывогу.
Але не думаў, што вось так
Нахлыне раптам скруха...
Шчаку апёршы на кулак,
Сядзеў Васіль і слухаў.

Трывогу смутную і ён
Даўно насіў у сэрцы...
Званкі рассыпаў тэлефон,
Грыміць — от разарвецца!
Павесялеў, здаецца,
Суровы, сумны старшыня,
І ў сельсавеце цішыня,
Глухая, як магіла,
Нібы загаварыла.

— Райком?.. Я слухаю. Я сам
Званіў — не дазваніўся...
Васіль? Ён тут... Жаніўся...
Так, так... Прыедзем заўтра к вам...—

Ён выцер пот, стаміўся,
Сказаў: — Васіль, чакаюць там
Мяне, цябе, вядома,
Ты ж член бюро райкома.
Паедзем раненька, Васіль,
Раён ад нас далёка...

Даехалі. Спякотны дзень.
Зайшлі ў райком, а ён гудзе,
Нібы вулей у спёку...
— Здароў, Васіль! —
І запрасіў
Яго сам першы ў кабінет:
— Сядай, Васіль...
І ён, як дзед,
Прыгорбіўся, сказаў:
— Куры,
Паклаў на стол цыгаркі.
— Я не куру.
— Бяры, бяры,
Куры, каб здохлі камары,
Чужынцы-недавяркі! —
Падумаў, кажа:
— Мы з табой
Нямала з'елі солі;
Загартаваны барацьбой,
Не гнуліся ніколі.
Табе пярун, маланка, гром
З гадоў малых знаёмы...
Ты будзеш, друг, сакратаром
Падпольнага райкома.
— Быць на вайне патрэбна мне,
На фронце. Я ж — у сіле!
— І тут ты будзеш на вайне,
Цяпер жа фронт і ў тыле.
Тут не праведзена мяжа,

Няма франтам граніцы.
Хадзіць жа па лязе нажа
Патрэбна налаўчыцца,
Хаваць сляды ад чужака,
Скумекаў?
— Так.
— Ну, па руках!
Хвалю тваё сумленне.
У добры час!.. Бюро ЦэКа
Аформіць прызначэнне.
А я стары. Зусім стары.
І хворы, і нядужы.
У рукі лейцы ты бяры,
Кіруй разумна, дружа.
Я чым змагу,
Дапамагу
Табе, Васіль...
Хоць хворы,
Сядзець не буду ў норах,
Як той барсук зімою,
Як мышка пад мятлою...

Гарыць зямля.
Нібы ралля,
Счарнелая даліна.
— Ратуй! —
Гукае Васіля
Пакутная часіна.

Васіль Вашчыла — сакратар
Падпольнага райкома.
На плечы ўзвалены цяжар
Нялёгенькі, вядома.

## IV

У гушчарніку хаціна
За тынком, за вішняком.
У хаціне ён з Мальвінай
Ды падпольны іх райком.
Сцерагуць яго яліны,
Абступіўшы спрат наўкруг.
Знойдзе той туды сцяжыну,
Хто райкому верны друг.

Звечарэла. Хтось пракракаў
Тры разы: такі пароль...
— Сакратар, зайсці дазволь?
І заходзіць той гуляка,
Што чачотку, як гарох,
На падлогу, на парог
Сыпануў з-пад дужых ног.
— Ты? Сядай. Прайшоў нямала.
Гразка. Світа мокрай стала.
Нацягаўся. Мусіць, ногі
Прытаміў? — спытаў Васіль.—
Тол прынёс?
— Прынёс нямнога,
Ды ў ім, шэльме, многа сіл.
— Ты, зямляк, перакусі,
Згаладаўся вельмі, мусіць?
Пад слатой асенняй мок.
І Мальвіна на абрусе
Ставіць бульбы чыгунок.

Вецер голлем шыбы шкрэбаў,
На падворку галасіў...
— Нам свая друкарня трэба...—
І задумаўся Васіль.—

9 Зак. 719

Дзе здабыць шрыфты?
— Уладзім! —
Кажа друг...
— Да д'ябла сум!
Я шафёр на іхнім складзе.
Хочаш бомбу? — Прынясу!
— Добра, братка. Веру, веру,
Друг надзейны і сусед...
Без друкарні, без паперы —
Ні лістовак, ні газет.
Зразумела?
— Ды скумекаў...
Дзякуй вам за хлеб і соль.
Выйшаў... Хтосьці зноў пакракаў,
Тры разы: такі пароль.
І заходзіць у хаціну,
Больш дакладна — у райком,—
Незнаёмая дзяўчына...
— Ты адкуль?
— А за ляском
Наша вёсачка Хвальяны.
— Хто паслаў?
— А партызаны.
— Хто пароль даў?
— Сам камбрыг.
— Петравых?
— А Петравых.
— Шмат салдат у вас лясных?
Усміхнулася красуня:
— Не палічыш — там гушчар...
Трэба добра з вамі сувязь
Нам наладзіць, сакратар.
Не паперная, жывая
Трэба сувязь. Так ці не?
А таму ў райком прыйшла я,
Сам камбрыг паслаў мяне.

Маладая,
Баявая,
Нібы іскарка жывая,
Сувязная партызан.
Кажа: — Тайны не хаваю:
Маю добры, хітры план:
Камсамольцы, камсамолкі
Растасованы ў пяцёркі,
Сіла — гвардыя мая!
А кірую ёю я.
Чужаніцаў, што ў лясніцтве,
Пераб'ём і ўсіх — на мох!..
От каб ваша кіраўніцтва,
Каб райком нам дапамог?
Дакацілі б да Берліна
Мы за нейкіх тыдняў пяць!..
Рызыкоўную дзяўчыну
Сакратар гатоў абняць.
Ён сказаў: — Таго лясніцтва
Не чапайце...
— А чаму?
— Ты ж прасіла кіраўніцтва?
— Ну, прасіла.
— Вось таму —
Камуніста к вам пашлю я,
Ён і план твой дамалюе,
Плану хітраму твайму
Накірунак дасць талковы,
Каб смяртэльны быў удар.
— Хто ён?
— Сіла! Ён вайсковы,
Акружэнец. Камісар.
Ён стратэгію ўзначаліць,
Вашу тактыку ўтрасе...
А Мальвіна: — Выпі чаю?
Кубак чаю ёй нясе.

9*

— Дзякуй. Вып'ю. З месяц, мусіць,
Я не грэлася чайком.
От сяджу,
Гляджу,
Дзіўлюся:
Хлеб на беленькім абрусе
І бяседа за сталом,
Нібы тут бацькоўскі дом...

Тут райком! Тут кузня тая,
Што свабоду нам куе.
Сядзе доля залатая
Зноў на покуты свае;

Сядзе чынна гаспадыняй,
Пачастуецца мядком...
Анікога не пакіне
У нудзе, бядзе райком.

Ён працуе днём і ўночы,
І ягоны сакратар...
Недзе ў шчыліне цвыркоча
Цвыркунок — начны пясняр.

Ні бяды яму, ні гора:
— Цыр-цырык
Ды цвір-цвірык...
Вартаўнік прыбег з дазору,
Аж засопся вартаўнік.

— Што такое? Ты ўстрывожан? —
Запытаў яго Васіль.
— Нейкі дзед!.. Шпіёніць, можа?
Прапусціць сюды прасіў.

І заходзіць дзед у хату:
— Не пазнаў мяне, Васіль?..

Быў жураўлікам цыбатым —
Кніжкі я табе насіў.

— Фрол Панасыч?! Даражэнькі!
Вы ж настаўнік першы мой.
Ледзь пазнаў: такі старэнькі...
Як жывецца?
                    — Памаленьку
Тупаю, дружу з бядой.
Каб параіцца з табой,
Шкандыбаў і гразь мясіў.
— Слухаю.
                — Скажы, Васіль,
Толькі шчыра мне скажы:
Стаць мне старастам дазволіш?
Прымушаюць! А ніколі ж
Ворагам я не служыў.
— Вы не ім, а нашай справе
Паслужыце, дзядзька Фрол.
Будзе лёгка з той управы
Ім у кола ставіць кол.
Вельмі тонка, хітра там
Трэба справу весці вам.
— Скеміў. Промаху не дам...

— Дзядзька Фрол,
                        а як жа сцежку
Вы намацалі?
                    — Нагой! —
І хавае хітра ўсмешку
Пад сівою барадой.—

Вецер мне шаптаў на вушка,
Як натрапіць на твой след,
Я, брат, стрэляная птушка,
Стратэгічны, шустры дзед.

Хоць мяне, скажу я шчыра,
Вучань верны перарос;
Нездарма яму Вашчылай
Звацца выпаў слаўны лёс...

Цені хісткія, як здані,
За акном на медзі хвой.
І плыве яно,
                    паданне
Нашай прошласці сівой...

. . . . . . . . . .

Вялі гасцінцы крыжавыя
Спрадвек у замак Радзівіла.
Капліцы вокала старыя,
Травой зарослыя магілы.

Там прошласць склала свае косці,
Над імі жвір цяжкі і рыжы.
З Парыжа і з Варшавы госці
Віталі дэспата ў Нясвіжы.

Ён з медзвядзямі,
Груганамі
І з недавяркамі ў хаўрусе.
Ён курганамі
І крыжамі
Засеяў гоні Беларусі.

У ланцугі з дамаскай сталі
Закуў і праўду, і законы.
У Крычаве тады паўсталі
На покліч праведнага звону.

Прыціхлі грозна рудні, гуты,
Застылі жорны і варштаты:

Пайшлі паўстанцы біць пакуту —
Паноў і полчышча магната.

У кузнях горны не згасалі —
Крывавым вылюдкам на згубу
Там зброю кавалі кавалі
Для ганчароў і лесарубаў.

Вашчыла вёў сякеры, вілы,
Мячы і дзіды на дасвецці.
Вашчыла — кліч народнай сілы,
А паруч з ім — Карпач і Вецер.

Укрылі горад дыму хмары,
У небе сонца свеціць скупа.
На брук, на румы, на папары
Паслаліся снапамі трупы.

На прычалы, вербалозы,
На сасмаглы на сухмень —
Кроў і слёзы,
Кроў і слёзы.
Чорны дзень...
Горны дзень...

Воран ворану гукае,
Каркае картавы.
Воўк ваўчыцу выклікае
Жэрці хлеб крывавы.

Смутак з горам абняліся,
А бяда — з бядою.
Наліліся,
Напіліся
Не вадой — крывёю

Лес, пагорак і даліна,
Цэгла ды каменні.

І Вашчылава дружына
Ў крыві па калені...

Агнём і дымам асмаліла.
Як галавешка Крычаў чорны.
Не можа войска Радзівіла
Узяць яго. Палаюць горны!

Са сцен — пякельнаю смалою,
Цаглінкай, дзідай — са званіцы.
Паўстаў ён сілай не малою,
Каторы год спакой не сніцца.

Хоць падкошана ўжо сіла
Бітвай не адною.
— Стой скалой! — гукаў Вашчыла,
І стаяць скалою.

З кавалямі,
З грабарамі
Ворагаў ён коле.
І панамі,
І князямі
Усцілае поле.

— Тут ведзьма з д'яблам абняліся! —
Завыў магнацкі служка Гдалій.—
Смалы мы ўдосталь напіліся,
Мне хопіць гэтакіх баталій!..
«Святлейшы княжа! — піша князю.—
Прасіце матухну Варшаву.
Бяда! Змяшаюць з гразкай граззю
І гонар наш, і нашу славу...»

Нясвіж трывога ахапіла,
У каралеўстве панскім смутак:
Арол адзін — Васіль Вашчыла,
Ды з ім народ, што скінуў путы...

Што там?
Хто там
Гэтак рана?
Што там за пагоня?
То ж уланы!
Пан за панам —
На ўзмыленых конях.

А за імі ўслед гарматы,
Акованы меддзю,
І маршалак зухаваты
На рысорах едзе.

Пасівелы не ад пылу,
Хоць пыліць дарога.
Гэта князю Радзівілу —
Хмараю падмога.

Паласнулі неба шаблі,
Грымнулі гарматы.
А паўстанцы?.. Ці аслаблі
Каля сцен шчарбатых?..

Ляжаць налева і направа
Касцоў і плытнікаў галовы —
Была крывавая расправа,
Быў бой... Няроўны і суровы...
Паўстанца Ветра там скруцілі
Калючым дротам — стогне ледзьве,
А Карпача — звяры! — зашылі
У шкуру з бурага мядзведзя.

Тады ўсё спушчаныя выжлы
Рашылі ўраз гайнёй ваўчынай.
Вашчыла... Дзе ж ён? Хлопец выжыў.
Уцёк, арол, на Украіну.

Не стаў ён попелам халодным,
Агнём ён быў — агнём астаўся:
З былінай, з песняю народнай,
Са славай добрай пабратаўся.

. . . . . . . . . . .

У роздуме, угнуўшы плечы,
Замоўк стары, пасля сказаў:
— Было... Сплыло, мой чалавеча,
Паданне гэта, як сляза.
Яно, як бачыш, не забыта,
Ізноў згадалася ў бядзе.
На магілках сівыя пліты —
На іх мінулае адбіта,
Па іх гісторыя ідзе...

—

Сакратар ужо світанкам
Задрамаў. Стаміўся ён.
Хтосьці тупае па ганку,
Патрывожыў нехта сон.

І заходзіць у хаціну
З дубальтоўкаю ляснік:
— Да яго я...
— Спіць...
— Мальвіна,
Я ад сну цяпер адвык.
— Што так рана, дзядзька?
— Дзіку
Кулю воўчую ўдружыў.

Дужа сыты ды вялікі,
Прыхаваў яго ў лаўжы.
Я падумаў: часта госці
Ў вас бываюць. Трэба ім
Наварыць, сасмажыць штосьці,
Трэба ж есці нешта ўсім...
— От жа дзякую сардэчна!
— Дзякуй і табе, Васіль.
— Мне? За што?
— У працы вечна,
Не шкадуеш, братка, сіл.

— Вы хваліце, ды не дужа,
Я няўдалы гаспадар.
Жонка кажа: няма мужа,
Ёсць падпольны сакратар!
— Кіньце жарты! Бульба стыне.—
Запрашае гаспадыня
На сняданак, да стала.
— От, каб чарачка прыйшла
У падмогу да сняданку!
А пасля спытаў ляснік:
— Можа, трэба вам зямлянка?
Я запаслівы мужык.
— Прадасцё?
— Магу.
— Куплю!
— Я табе ў дарунак дам.
А Васіль:
— Шрыфты ўжо маю,
Будзе ў нас друкарня там!..

Дарагі ты мой таварыш! —
З леснікoм ужо на ты,
І сядзяць, нібы браты.—
Кашу гэткую заварым!

Перадушацца пачвары,
Толькі ўгору капыты!..

І ўжо ранняю вясною
З той друкарні, пад зямлёю,
За лістоўкамі газеты
Шуганулі ў белы свет.
І чыталі сельсаветы
Нашай Волі Запавет.

А ці позна, а ці рана
Край азёрны, край лясны,
Партызанкі, партызаны
Білі гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны.

Планаваліся райкомам
Кожны выбух, кожны бой,
Што ламалі гулкім громам
Эшалоны над ракой.

І сюды па буралому
Ад відна і да відна,
Як да матчынага дому,
Бегла сцежка не адна.

У глухіх палескіх вёсках
Шанавалі гэты дом:
Як жывой надзеі востраў,
Між азёр лясных — райком.

## V

Калі зацвінькала сініца
Ў галлі аголеных арэшын
І пачала яна туліцца
Да загуменнага падстрэшша,

А цецярук чырванабровы
Схаваўся ў снезе з галавою,
І лось рагаты — цар дубровы,
Карміўся мёрзлаю карою,—
Тады завейнаю парою
Спынілася не выпадкова
Пры поўнай выкладцы і зброі
У вёсках войска Каўпакова.
Сяброў сардэчных з Украіны,
Дзе голы стэп,
Дзе лесу мала,
На выспах кожная хаціна
Не толькі ласкай сагравала.

— Сядайце, друзі! —
І Вашчыла
Пачэкаў кіпцем па глячку,
Сказаў: — Праверым, што за сіла
Бушуе ў нашым першачку.

Праверылі: у кожнай кроплі
Бунтарны выбух мацака.
У ход пайшлі гуркі, картоплі,
Сцягняк вянджоны вепрука.

І яшчэ пайшоў хлапчына,
Быў гуляка ён з гуляк:
То прыгладжвае чупрыну,
То таўчэ нагамі «мак».
— Падывіся, Украіна,
Які гарны твой чумак!

А другі жартуе:
— Кіем
Я табе, як вераб'ю,
Ногі, братка, пераб'ю!

— А на іх стаіць наш Кіеў,
Кіеў родны я люблю...

Ад стала і да парога —
То ваўчком, то птахам ён.
Ходзіць ходарам падлога,
На стале талерак звон.
Ходзіць лава, ходзіць печка,
Шыба ў раме ляскае...
— Аддам проса, аддам грэчку
За дзяўчыну-перапечку
З гарачаю ласкаю.

А другі віецца птушкай,
Не шкадуе хлопец ног;
Сыпле ён свае частушкі,
Як падпражаны гарох:

— Па дарозе жук, жук,
Па дарозе чорны.
Падывіся, дзеўчыненька,
Які я маторны!

А я гэтак атакую
Дзявочую нацыю,
Што любая закукуе
Ў маёй акупацыі!

Хадзі, хата, хадзі, печ! —
Скача хлопец чорны,
Выйшла дзеўка:
— З кругу прэч,
Жучок нематорны!

Я такога атакую,
Што штурмуе неба;

Зацалую,
Замілую —
Не захоча хлеба.
А цябе, чарненькі жук,
Падмяту спадніцай!..

Змоўклі жарты, ботаў стук,
Цішыня ў святліцы.
Каўпак сказаў: — Замнога звону,
Васіль Данілыч, ад гуляк.
— Дык маладыя ж! Так?
— Ды так.
А дзе Платон? Гукні Платона...
Платон прыбег: — Вы звалі, бацька?
— Ага. Сядай, сядай, сынок.
Патрэбу маю песняй хвацкай
Уславіць на прывале свята...
Платон кірпаты ды чубаты,
Вясёлы, моцны, як дубок,
Завёў, павёў. І ўсе запелі:

...Як тры сокалы ляцелі
Над прасторакю вады,
Ад братоў адстаў ён, сокал,
Сокал самы малады.

А два сокалы ў палёце
Брату крыкнулі свайму:
— Ты куды ляціш, таварыш?
Цяжка будзе аднаму.

Адказаў малодшы сокал:
— Ой, не мне дамоў ляцець,
Чую я: закаркаў воран,
Толькі мне не страшна смерць.

Там, дзе хвалі ў пырсках срэбных
Б'юцца ў кручы берагоў,
Там, далёка ў бітве смела
Стрэну ворага свайго...

Песня жальбай за сэрца хапала,
На душу ападала слязой:
Нашых родных і любых нямала
У магілы вайна ўжо забрала,
Іх укрыла сырою зямлёй;

Іх навекі засыпала ў ямах.
І Мальвініну маці таксама
У магілу навала
забрала...
«Маці родная... Мамачка... Мама...» —
Ціха ў думках Мальвіна шаптала,
А душа ад бяды галасіла,
Сэрца плакала ў цяжкай бядзе.

Зноў Мальвіна варыла,
насіла,
Частавала сардэчных людзей...

Са стэпам шчыры бор вітаўся,
Гула да трэціх пеўняў хата.
Тады ў гасцей ляснік спытаўся:
— На снасці, людзі, не багаты?
— Якія снасці?
— А хоць сані,
Вязы з бяроз, з кляноў палоззе!..

Звініць палеткамі, лясамі
Ажно да самых зор марозік.
На лёгкіх крыльцах снегіровых

Ляціць віхура.
Знаю, ў студзень
На лёдзе кола, як карова,
Хістацца п'яна, братка, будзе.
Каўпак спытаў:
— А дзе ўзяць сані?
Яны нам трэба, чалавеча.
— А мы іх зробім, дзеду, самі...

На яркім жары ў рускай печы
Ляснік распарвае бярозкі;
На іх бяросце поту слёзкі,
Бярозкі ў печы памякчэлі;
Анучы мокрыя сіпелі
На тых распараных бярозках.
Ляснік вазы рыхтуе войску.

Як хустка, снег быў на бярозе,
Нібы папаха, на ядлоўцы,
Калі на тры вярсты абозам
Плылі з дубровы каўпакоўцы.

Прыйшоў пчаляр:
— От на дарожку
Прынёс вам мёду два збаночкі.
Старая кажа: — А я трошку
Маліны сушанай, сыночкі.

— А во грыбкі,— дае жанчына
Грыбы сухія на шнурку.
— Вазьміце, дзед, кажух аўчынны,—
Кравец гаворыць Каўпаку.

Дзяўчынка, быццам журавінка,
Хлапцу паднесла рукавіцы:
— Вазьмі. Нядоўга прастудзіцца.

Былі ж не раз на вечарынках,
Схавалі ў сэрцах таямніцу...

І хтось згадаў таго Вашчылу,
Што ў Крычаве спраўляў хаўтуры,
Князёў тралюючы ў магілу.
У перуноў узяў ён сілу
Бунтарную, як покліч буры.
Каўпак сказаў:
— Пяюць бандуры
Яму і сёння на Украіне.
Любоў не згасне, не астыне
Да чалавека-вярнідуба,
Якога панства не зваліла...

Васіль маўчыць, а слухаць люба.
І сам жа ён, як той Вашчыла,
Смуглявы, волатнай пароды,
Стаіць скалой.
— Ну, да сустрэчы,—
Каўпак, дзядок белабароды,
Стаў на пянёк, абняў за плечы
Вашчылу ён:
— Бывай, Палессе!
Твой лес нас добра прыгалубіў,
Паехалі!.. Бяду павесім
Мы на карпацкім шэрым дубе!..

Было са слёзамі расстанне
На Прыпяці. Быў дзень зімовы.
Рыпелі, беглі лёгка сані,
Па лёдзе цокалі падковы.
Ажно на тры вярсты абозам
За Прыпяць войска адплывала.
Плыла і песня ў вербалозах,
І за душу яна хапала.

Стаяў, глядзеў услед Вашчыла
Абозу ў смутным белым полі,
А песня сэрцу гаварыла,
Як гнуцца, стогнучы, таполі
На занявольнай Украіне;
Як маці журыцца па сыне,
Яго чакае дзень пры дні:
Копитами вдарте, вороні,
Он в огні засяли вдалині.
То з вікна моеі хати
Світить нам старенька мати...

Сваці з акна, матуля, сыну,
Ён не забіты на вайне.
Прыйшоў, чубаты, на Ўкраіну,
Цябе да сэрца прыхіне.

Пачуў палескі бор калматы,
Здалося, выбухі з Карпатаў
І тую песню, што ў агні:
Копитами вдарте, вороні,
Я в сідельці, мама, на коні,
І несуть мене по полю,
Де здобув я нашу волю,
Коні вороні.

## VI

Жыта, жыта...
Шумяць каласы.
Слухай скаргу даспелага жыта:
— Ні касца, ні жняі,
Ні сярпа, ні касы,
Я і людам і богам забыта;
У нудзе,

У бядзе
Плача доля мая,
Не дайсці мне да роднае вёскі.
Я пад вартай стаю.
Арыштована я
Гарнізонам варожага войска.
Пад прыцэлам стаю.
Дзень і ноч на мяне
Пазіраюць з байніц кулямёты.
Хлебадараў сваіх
У сваёй старане
Я не ўсцешу цяжкім умалотам.
Хоча вораг мой хлеб
Па чыгунцы ў вагонах павезці.
Хай бы ён спруцянеў,
Хай бы, прагны, аслеп,
Каб не мог і кавалачка з'есці.
Дзе касец і жняя?
Час на жніва вам, родныя вёскі.
У палоне стаю,
Арыштована я...
Пакасіце варожае войска!..

Скаргу чуў пакалечаны дуб,
Што застыў каля жыта на ўзмежку.
Ствол шурпаты, нібы галавешка,
І снарадам падстрыжаны чуб.
Абгарэлы,
Счарнелы,
Сухі,
Нібы рукі, працягваў сукі
Дуб у ясную просінь...

У суках чорны вецер галосіць:
— Салаўінае песні табе
Не пагушкаць, калека, лістамі;

Рыжы ўзмежак у ціхай журбе
Не засеяць табе жалудамі;
Не заслоніш дубкоў,
як сынкоў,
Ты зялёнаю кронай ад граду;
Не начэпіш вясёлак-вянкоў,
Толькі я на галіне прысяду,
Як стамлюся пад летняю спёкай...

Дуб сукамі рыпіць:
— Я глыбока
Увайшоў у зямлю каранямі,
Ускарміла зямля, узрасціла.
Перунамі,
Дажджамі,
Снягамі
Гартавалася сіла...

Як думны дуб, Васіль Вашчыла
Счарнеў у летні санцапёк.
Прысеў на ўзлеску на пянёк
І бытта чуе галасы:
— Чаму марудзіш, чалавек?
Пара зярнятам у засек,
Даспелі добра каласы.
Дык завіхайся, зажынай!..
А як жа тут пачаць работу?
Стаіць вясковы ураджай
Скрозь на прыцэле кулямётаў.

Баліць душа ў сакратара,
У роздуме глыбокім ён:
Не будзе ж нават сухара,
Калі жытнёвы спелы звон
На глебу зернямі ўпадзе,
Паглумлены, знявечаны.

А чым тады карміць людзей?
Бяда! Галодны будзе год,
Калі ў вагонах умалот
Папруць сабе ў Нямеччыну...

Бюро склікае...
— Што рабіць? —
І, спахмурнелы, ён сядзіць,
Дымком цыгаркі апавіты.—
Нам трэба жаць і малаціць,
А карнікі вартуюць жыта.
Таварышы, я маю план
Завесці ворага ў спадман:
Напад раптоўны на раён,
Дзе фашыстоўскі гарнізон,
Дзе штаб яго, дзе зброі сховы,
Не да жніва чужынцам будзе,
А часам тым абшар жытнёвы
Сажнуць і скосяць нашы людзі...

Ужо цугляе коні план,
Ухвалены аднагалосна.
А з ім — атрады партызан
І веташок у соснах.

То Вашчыла за сабой
Войска вядзе многа...
Каля будкі вартавой
Знялі вартавога.

Толькі крэкнуў вартавы,
Звалены прыкладам.
Наш разведчык баявы
Зняў другога гада.

Ён і трэцяга кладзе
Ворага на бруку.

Ціш такая. Анідзе
Ні гуку,
Ні груку.
Шлях расчышчаны.
І ноч
Ў рулі затрубіла.
З логу цёмнага — наўскоч
На кані Вашчыла.
Грымнуў бой, гарачы бой,
Стрэлы ды пажары.
Над кватэраю штабной,
Над управай, над шашой —
Толькі дыму хмары.

Выбухнуў са зброяй склад
Хмараю агністай.
Ні наперад ні назад
Карнікам-фашыстам.

Ратаваць свой гарнізон
Немцы на машынах
Не наедуць у раён,
Спляжацца на мінах.

Нашынкована шаша
Мінамі як трэба.
Душагубская душа
Адлятае ў неба.

З прыдарожных хмызнякоў,
З-пад ялін кашлатых
Косяць кулі чужакоў,
Малоцяць гранаты.

На пяску і на траве
Трупы злева, справа...

Воран ворана заве
На хаўрус крывавы...

Здзяйсняецца Вашчылаў план:
З палону выйшла жыта —
Касцоў і жней і партызан
Ратунак і нажытак.

Яго, як хіжыя сычы,
Не сочаць з вышак кулямёты,
І ноч і з ранку да начы
Тут завіхаецца работа.

Сярпы жнуць — толькі паспявай
Снапы вязаць. Маланкі-косы
Паблісквающь, кладуць пракосы.
Іржэўнік колецца — трывай,
Калі ступіў нагою босай,
Калі іголкамі асот
Табе пякуча рукі ўколе...
І боль і гнеў,
І кроў і пот
Замешаны на жытнім полі.
Зямля змарнела ад пакут,
А ты трываеш, родны кут,
Вясной арэш,
А летам жнеш,
Хоць сумны кожны твой снапок...
На пожні пад градой аблок
Вашчылу бачыўся ў бары
Палескай Сечы вольны стан:
Ля буданоў гараць кастры,
З катлоў плыве густы духмян
Гарачай юшкі з акуньком,
З цыбуляй, перцам і мяньком;
Праснак, правэнджаны дымком,

Хрумсціць, падсохлы, на зубах.
Здаровы дух, а смачны пах!..

Вашчыла гнаў і гнаў пракос —
Касіць з маленства ён прывык,
Сярпоў багата, многа кос
У спелым жыце: жык ды жык...

Мальвіна жала на гары,
Заняўшы постаць між жанок.
І голас матчын, спеў стары,
Як бы азваўся ён здалёк:

— А я ў полі была жнейка,
А я ў полі была жнейка,
За гарою мая жменька,
За гарою мая жменька...

Ды сёння песні зажынковай
Не чулі, песня не плыла,
Яна цяпер, парой суровай,
Нямой у роспачы была.
У кожным коласе жыла
Трывога цяжкая.
Трывогу
Душой Вашчыла разумеў,
Глядзеў з палетка на дарогу:
Бальшак жалезам не грымеў.

На ім ні танкаў, ні гармат,
Стаіць заслон лясных салдат,
Вартуе працу і людзей.
Народ са зброяй давядзе
Жніво як трэба, да канца...
— Васіль Данілавіч, вінца
Мне келіх поўны паднясі,—

Жартуе дзед,— я накасіў,
Я навязаў снапоў — уга!
— Касі дык хлеба пад'ясі.
— Расце мне шчаўе на лугах...—
Жартуюць. Косяць. Любата!
Збіраюць дзеці каласы.
Жывыя сцяў на горцы, там,
Грымотны выбух галасы.
...Кожнага чакала ў жыцце міна,
Прытаіўшыся, яна чакала.
Вузкая разора-дамавіна.
Ціхенька Мальвіна ў ёй ляжала.

На калені стаў Васіль Вашчыла,
Да шчакі прытульваўся шчакою,
Гладзіў косы русыя рукою,
Гора яго гнула і душыла.
А старая цётка галасіла:

— Хай табе пад ручанькі пасцеле
Галубок з-пад лёгкіх крыльцаў пуху,
Каб цяпло было ў тваёй пасцелі,
Каб не ціснуў холад маладуху.

І другая цётка зарыдала:
— А ты ж ночы жыта ў полі жала,
Хлеба новага не паспытала,
Не спякла й буханачкі малое,
А ўжо стала жыта малаціцца.
Хай жа прыйдзе сонца залатое
На тваю магілу пажурыцца...

Стаяў суровы, скамянелы
Васіль Вашчыла ля Мальвіны,
Стаяў, як дуб той абгарэлы,
І хмарамі плылі ўспаміны.

І хоць ні ў чым не вінаваты,
Ён вінаваціў сам сябе,
Пакутай цяжкаю працяты,
Стаяў пакутнік у журбе.

І за труной падаўся ўслед,
Сцямнеў, здаецца, белы свет.
А поле галасіла.

Лясны пагост. Магіла.
На ёй яшчэ сыры пясок.
І, стужкаю спавіты,
На жоўтым пагарбе снапок.

Зноў жнуць і косяць жыта.
Яно — жыццё. Яно — спрадвек
Зямлі і долі волат.
Таму шаноўна чалавек
Спавіў і Серп, і Молат
Калоссямі, бо каласы —
Яго жыцця карона.

...Не чутна посвісту касы,
Дакошаны загоны.
Не цопае дзядуля-цэп,
Замоўклі малатарні.
Прыйшоў у лес, у хаты хлеб
З пякельнае пякарні.

Разломяць цёплы каравай
Жаданаю часінай...
З галін лістоту ціха гай
Цярусіць на сцяжыны,
Чырвоныя рабіны
У пасівелую траву
Сыпнулі ягад шчыра.

А дуб рыпіць:
                    — Я ажыву!
Ты чуеш, брат Вашчыла?..

Павек змагайся і жыві!
Глядзі: вайны набытак —
І на слязах,
І на крыві
Рунее ў полі жыта.

# ЗМЕСТ

## ВЕРШЫ

## ВЕРШАВАНЫЯ АПАВЯДАННІ



## ПАЭМА

**Бялевіч А.**

Б 99 Сонечны гадзіннік. Вершы, вершаваныя апавяданні, паэма. Мн., «Маст. літ.», 1978.

160 с. з іл.

Творы гэтай кнігі расказваюць пра хараство роднай прыроды, пра гераічнае мінулае Беларусі і нашу сучаснасць, пра добрых і шчырых людзей, іх клопаты і радасці.

Б $\frac{70403\text{-}041}{М\ 302(05)\text{-}78}$ 40-78 Бел 2

*Антон Петрович Белевич*

СОЛНЕЧНЫЕ ЧАСЫ

На белорусском языке

Рэдактар У. А. Паўлаў. Мастак А. А. Бятанава. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар В. В. Шарамета.

ІБ № 74

АТ 09575. Здадзена ў набор 19.10.77. Падп. да друку 02.02.78. Тыраж 4900 экз. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 5,85. Ул.-выд. арк. 5,76. Зак. 719. Цана 65 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220004 Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005 Мінск, Чырвоная, 23.